

Год Манюшкі ➔5

# Ніва



Бельск – Камянец ➔8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3286) Год LXIV

Беласток, 5 мая 2019 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Галене згарэла ўсё, што нажыла



— Зараз сёння еду з нявесткай да ветэрынара ў Гайнаўцы да майго коціка, які ляжыць у рэанімацыі, пасля аперацыі, — кажа Галена Бартошук з «Цаглінак» са Старога Ляўкова. Сядзім у хаце яе ўнука Якуба ў на хуткую руку падрыхтаваным пакоі дома, які 5 сакавіка быў яшчэ «ў суровым стане». Былая кіраўнічка калектыву мае дзе цяпер прыкласці ўстурбаваную галаву да падушкі. Людзі з Нараўчанскай гміны прывезлі сюды кожны хто мог — то крыху мэблі, то пасцель. Абсмалены халадзільнік ветрыцца на падворку, бурчыць — здаецца, будзе працаваць. Дом унука — на тым самым падворку, дзе ў другім будынку, на гарышчы, успыхнуў пажар. Комін проста кіпеў — у печы цэнтральнага абагравання на першым паверсе былы муж Галены паліў, як сказалі пажарнікі, поліэтыленавыя бутэлькі і розную ўсячыну, якую нельга спальваць. У Галены Бартошук, 1956 года нараджэння, пенсіянеркі, згарэла ўсё, што нажыла за ўсё жыццё. Засталіся два сшыткі, але не былі гэта матэрыялы з песнямі з праграмы «Цаглінак» — Галена ведае ўсе песні, і старыя, і новыя — на памяць. Пайшла яна на заняткі для сеніёраў па камп'ютарнай тэхніцы з двума гэтымі ўцалелымі сшыткамі. Але штосьці перад выхадам яе кранула — вынесла з хаты свайго коціка Рудольфа і зачыніла яго ў голым на першым паверсе доме ўнука.

— Я яго ўратавала ад пажару. А як пагарэла, была ў вельмі цяжкім духовым стане, турбавалі мяне страшныя думкі, проста муцілася ў галаве ад гора, дык мой коцік моцна захварэў. І мусіла ім заняцца. Гэты коцік мне дарагі, каштоўны. І такі разумны. Я страціла так многа. Тут, дзе цяпер я прытулілася, на нізе ўнукавай хаты, быў раней варштат майго сына... Начаваць там не далося. Тут перананачавала першыя чатыры ночы на голым бетоне.

... Я там два гады таму кончыла рабіць шалёўку. Абабіла хату, пакрыла сама. Не даў мне ані граша мой былы пасля разводу... І тая шкарупа дому засталася. Не ведаю чаму, але хіба мінеральная воўна не дала больш загарэцца, 12 сантыметраў, два слаі, пад шалёўкаю таксама два слаі. Гэта воўна не гарыць. І агонь ва ўнутры дому спыніўся, пакуль хапала паветра. Ніз дома не загарэўся. Калі б былі такі вятрыска, як сёння, дык агонь перакінуўся б на іншыя дамы *(дом стаіць у цэнтры Старога Ляўкова, непадалёк драўлянай старадаўняй царквы).* Ой, першы раз у жыцці бачыла пажар, прытым у сябе.

— Дом пабудаваны трыццаць гадоў таму. Пціўніца мураваная. Перавезлі былі хату дзедаву, пляц быў цешчын. З падзелу маёмасці пасля разводу мне дасталася гарышча хаты, а былому мужу ніз. І мая гара згарэла. І ўсё. А на нізе — нічога. І у печы гаспадар паліў абы-што, і рассадзіў комін. Комін да мае хаты — навонку. У тую печ трапляні і бутэлькі з-пад растваральніка, і бутэлькі з-пад «гопаў», пластмасавыя слоікі. Думаў, усё згарыць. Так грэў сваё цэнтральнае.

... Мой «цаглінаўскі» строй згарэў. Думала, нічога з яго ўжо не будзе. Раз памыла. Прабую яго неяк дачысціць... Зараз пакажу... Званіла і ў пральню ў Гайнаўцы. Купіла прэпарат «Оксы», можа, ён паможа. Удалося крыху пачысціць, каляровае. Вазьму той «Оксы» да белага... На строях смугі пазаставаліся. Не ведаю, ці дойдзе. У брудным строі ж не пайду на сцэну. Усе мы трымаем строі дома. А вось на гэтай спадніцы хіба нічым не дачышчу. На гэтых белых спадніцах — можа ўдасца гэты гар счысціць прэпаратам да белага. Строі багатыя, цэлы вялікі мех... Калі б вісеў на пластмасавай вешалцы як некаторае адзенне, дык як палілася пластмаса, яно падала ў ніз шафы. Некаторае адзенне ўдалося ўратаваць. А калі вешалка была металёвая... Строй вісеў, а тэмпература, як казаў паліцыянт, налічвала 300-400 градусаў. Пару рэчаў асталося, у рагавой канапе, куды я ўкідала «падворкавыя» рэчы, «нехадлівыя», — рагоўка згарэла, а тое што ў ёй было ўсярэдзіне — уратавалася, абы-што, былі там клубкі нітак з распушчаных швэдраў, — думала, можа які ходнік звяжу. А так рэшта ўся зжарылася ў хаце. Чатырыста градусаў. Шыбы ў вокнах палопалі. Пасцель, мэбля пагарэла. Калі што цалейшае было, залілі вадою.

Пракурор казаў: «Лепш сёння нават туды не заходзьце». І дзеці не пускалі. Але ж калі сёння не зайду, дык заўтра мушу. Трэба ўсё вывальваць. Два кантэйнеры вываліла папаленага барахла. Гарэла тры гадзіны...

... У старалаўкоўскай святліцы былі арганізаваны курсы «Сеніёр +». Я яшчэ крыху падпрацоўвала, з раніцы была на магазіне. «О, ёсць такое абучэнне, думаю, пайду, яшчэ падвучуся. Быў гэта другі дзень таго абучэння, аўторак. Сяджу на курсах, і чую, пажарная страж (яна побач святліцы), вые. «У кагось пажар! — кажу. — Гарыць!». Нават мне праз галаву не прыйшло, што гарыць у мяне хата. Звоніць нявестка: «Дзе ты?!» — «У святліцы». — «А што ты там робіш?» — «Я на курсах камп'ютарных». — «Хіба ў мяне або ў цябе дом гарыць! Ляўкова Старое, 10!». Я ўскочыла на ровар — бачу — ужо дзве пажарныя каманды гасяць. «Дайце ключ да дому!» Я не ведаю дзе ключ, мацаю па кішэнях у торбе... Выцягнула ключ, у хату ўбегла... Нічога не бачу. «Дзе мой коцік?!» Дым б'е ў вочы, у нос. Пажарнік у масцы крычыць: «Што вы робіце?! Уцякай пані згэтуль, згарыш!!!» Сама не дала б рады выйсці... Ужо не знала як, пачынала чадзець. Схапіў пажарнік мяне пад рукі, звалок з усходаў на паветра. Гасілі. Прыехала пажарная каманда яшчэ з Гайнаўкі.

Гасілі. Лілі ў комін ваду. Комін увесь гарэў, кіпеў. Чатыры гадзіны працягвалася акцыя пажарнікаў. Засталося пару «падворкавых» рэчаў, нейкія старыя нагавіцы, што недзе ўткнёныя ўнізе былі... Вось таго ўсяго маёнтку засталося... І лядоўня, што далей крыху ад коміна стаяла. Усё ў дыме, у сопусе. Усё змяніла колер, не дамываецца. Лядоўня стаіць на двары ад суботы. Вышаравала яе, уключала. Гарцела тры дні. Выключыла — нічога не будзе. Але ўключыла другі раз... Ці будзе працаваць? Але дастала я маленькую лядоўню ад свае сванькі. Людзі папрыносілі ўсяго, хто што мог. Калектыў аддаў мне сваю ўзнагароду ў таварных бонах з фестывалю. Назбіралі мне грошай хто як мог калегі са спявацкіх калектываў — з «Васілёчкаў», «Нараўчанак», з «Рэха Пушчы», калектыў са Скярневіц з-пад Варшавы, калектывы, з якімі мы пазнаёміліся ў час супольных выступаў. Марцін з гміны, што ў транспарце працаваў, даў мне гэты чорны столік, шафу, камоду, крэслы, дзеці — сын, нявестка і дачка — купілі тэлевізар. Швагрова дачка зрабіла зборку на фейсбуку, людзі скідваліся ў маю скарбонку па 5, па 10 злотых, хто як мог... Добра, што маю дзе прыкласці галаву да падушкі.

Але ці ўвогуле вярнуся ў свой дом? За ўсё жыццё я яго нажывала. Усё, што мела, там было. Пасля аперацыі на страўнік я неяк дайшла да сябе, засталося б дай Бог у спакоі жыць, унукаў дагледзець, з калектывам рыхтавацца да спеваў і спяваць людзям на радасць...

І коцік акрыяў, вярнуўся ўжо дахаты. Але ў коцікаў, кажуць, дзевяць жыццяў.

Памагчы Галене Бартошук можна, уплаціўшы на яе рахунак хто колькі можа.

**Helena Bartoszuk, Lewkowo Stare 10, 17-220 Narewka, konto: 10 8063 0001 0030 0301 7872 0001.**

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**





# Нікому непатрэбныя гульні

У чэрвені бягучага года ў сталіцы Беларусі Мінску пройдуць Другія еўрапейскія спартовыя гульні. Што гэта за спаборніцтвы і пад якім соусам „іх ядуць", толкам не ведаюць нават аматары спорту са стажам. Таму давайце паспрабуем разабрацца.

Ідэя правядзення Еўрапейскіх гульняў належыць кіраўніку Алімпійскага камітэта Еўропы (ёсць і такое бюракратычнае аб'яднанне) Патрыку Хікі. Напомню, што першыя падобныя гульні прайшлі ў 2015 годзе ў сталіцы Азербайджана Баку. Як вядома, гэтая дзяржава даўно прыватызаваная дыктатарскім сямейным кланам Аліевых. Перад гэтымі гульнямі медыя і розныя праваабарончыя арганізацыі адзначалі самыя маштабныя для постсавецкага Азербайджана рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці краіны. Цэлы шэраг дэмакратычных інстытуцый было зачынена, дзясяткі праваабаронцаў і журналістаў былі жорстка рэпрэсаваны. Аліеўскі рэжым гэтыя факты аспрэчваў і максімальна стараўся выкарыстаць міжнародныя спаборніцтвы для сваіх прапагандысцкіх мэт. І выкарыстаў у розны спосаб. Прызнаюся шчыра, што я не глядзеў аніводнай трансляцыі з сонечнага Баку, але ведаю, што другое агульнакаманднае месца на тых гульнях, канешне пасля Расіі, якая ўсяляк падтрымлівала Аліева, заняў менавіта Азербайджан, чаго ніколі не магло стацца на іншых прадстаўнічых спаборніцтвах.

Варта прыпомніць яшчэ і той факт, пра які многія забыліся, што першапачаткова Першыя еўрапейскія гульні планаваліся не ў Азербайджане, а менавіта ў Беларусі. Але тады кіраўніцтву Сінявокай яшчэ хапіла розуму адмовіцца ад гэтага не толькі зусім не прыбытковага мерапрыемства, але нават затратнага. Паводле толькі афіцыйных даных на азербайджанскія гульні было выдаткавана 1 мільярд 12 мільёнаў долараў (!). І гэта адбывалася на фоне эканамічнага крызісу ў краіне, дэвальвацыі азербайджанскага маната і зніжэння цэн на нафту.

У Беларусі эканамічная сітуацыя зараз ніяк не лепшая. А прэм'ер-міністр дзяржавы Сяргей Румас ужо прызнаўся, што не ўдалося знайсці аніводнага (!) знешняга сур'ёзнага спонсара гэтых спаборніцтваў. Гэта вельмі істотны індыкатар. І гэта азначае, што асноўны фінансавы цяжар наўпрост ці ўскосна ляжа на плечы беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Бо начальніку Нацыянальнага алімпійскага камітэта (па сумяшчальніцтве кіраўніку ўсёй дзяржавы) вельмі патрэбна стварыць для ўсіх гасцей прывабную карцінку. Таму як звычайна „мы за ценой не постоим".

Выклікае вялікі сумнеў і ўласна спартовая прадстаўнічасць на гэтым спартовым форуме. Не думаю, што яна будзе нашмат лепшай, чым у Азербайджане. А хутчэй усяго і ніжэйшая. Няма сумневу, што россыпу кантынентальных, а тым больш сусветных рэкордаў чакаць не даводзіцца. Ні футбола, ні валейбола, ні гандбола, ні класічнага баскетбола, ні вялікага тэніса на гэтых гульнях не будзе. А глядзець самба ці стэндавую стральбу аматараў няшмат.

Ужо зараз можна смела прагназаваць, што істотнай цікавасці гэтыя гульні не выклічуць нават у жыхароў Мінска, не кажучы пра насельнікаў іншых мясцовасцей Беларусі. Ужо зараз можна прагназаваць, якім чынам будзе ісці напаўненне трыбун у час гэтых спаборніцтваў. Найперш будуць задзейнічаны ўсе наяўныя сілы праўладных камсамольцаў, якія зараз называюцца бэрэсэмаўцамі. Нягледзячы на летнія вакацыі, школам і іншым навучальным установам будуць дырэктыўна дадзены квоты на абавязковае наведванне тых ці іншых спартовых спабораў.

Ведаю адзін спосаб, як прыцягнуць увагу сапраўдных беларускіх заўзятараў да гэтых спаборніцтваў. І магу адкрыта падзяліцца ім, хоць, на жаль, кіраўніцтва дзяржавы і аргкамітэт гульняў на гэта дакладна не пойдуць. А варта было б зрабіць хоць бы адну рэч — афіцыйна абвесціць дазвол на выкарыстанне аматарамі спорту на трыбунах нацыянальнай бел-чырвона-белай сімволікі. Гэта быў бы крок і да грамадзянскага замірэння, і да ўзнікнення цікавасці да спартовых паядынкаў, магчымасці перапражываць за сваіх беларускіх спартоўцаў. Але гэтага дакладна не здарыцца. Таму я асабіста не збіраюся на гэтыя спартовыя гульні, ды і трансляцыі глядзець не буду. Што і іншым шчыра прапаную зрабіць.

Такія гульні нам непатрэбныя.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Усё ж — вайна!

Свет наогул ігнаруе расійскі ваенны патэнцыял. Яго гадавы ваенны бюджэт складае ўсяго 66,4 млрд. долараў ЗША, у той час як Кітай і ЗША маюць па 215 і 596 мільярдаў долараў ЗША. Гэтыя даныя з 2015 года. Усё ж, Расія ўсё яшчэ знаходзіцца ў хвасціку чаргі, відаць, з пункту гледжання памнажэння ваеннай маёмасці і яе тэхналагічнай удасканаленасці, што таксама выкарыстоўвае ў сваёй прапагандзе, прасоўваючы сябе як краіну, якая зусім не рыхтуецца да вайны, толькі ўзбройваецца для абароны міру. А яе ваеннага арсеналу дастаткова для таго, каб паўторна падзяліць зямную кару ўздоўж нацыянальных межаў, вытраўленых агрэсіўнай кіслатой мінулых войнаў. Але ж і нават «аднабомбкавыя» дзяржавы могуць пачаць глабальную вайну. Такі сцэнарый яшчэ больш верагодны сёння, чым той факт, што выклічуць вайну сусветныя дзяржавы. Гэта занадта сур'ёзныя гульцы — іграюць, каб не прайграць. Прафесійныя гульцы маюць тэндэнцыю да рызыкоўных, хоць старанна скалькуляваных прыёмаў, палітычных блефаў і нават паспалітага жульніцтва. У гэтай гульні лічыцца разумная стратэгія, а не свой капітал. Ядзерная вайна вісіць над гульцамі амаль як знак міру. Стаўкі велізарныя — сусветнае пананаванне над светам ці хоць над яго здавальняючай часткай. І не толькі ў фізічным сэнсе, як эканамічным і палітычным. Для буйных гульцоў толькі за такі свет які ёсць варта падымаць самы высокі ўзровень ставак. Пасля ядзернай вайны быў бы ён непрадказальны, таму мала варты. Таму фізічная вайна ім непатрэбная. Для таго, каб быць пераможцам, неабходны мір. Толькі тады мае сэнс гульня. Нягледзячы на тое, вайна працягваецца, тачыўшы Зямлю як ненажэрныя чэрві, хутчэй на яе перыферыях, ніколі на галоўнай сцэне. Сама вайна ўсё больш перасоўваецца ў сімвалічную сферу. Адзін з яе варыянтаў — гібрыдная.

Для ваенных гісторыкаў расійская гібрыдная вайна — нічога новага. Ужо ў 1938 годзе польскі саветолаг Уладзімір Банчкоўскі пісаў, што «асноўным тыпам расійскай зброі, вызначаючай трываласць Расіі, яе сілу і магчымыя будучыя перамогі, не з'яўляецца нармальны ў еўрапейскіх умовах фактар ваеннай сілы, але глыбокія палітычныя дзеянні, якія характарызуюцца ўтрыманнем падрыўнога, дэструктыўнага і прапагандысцкага зместу».

Гэтыя новыя тэхналогіі геапалітычнай барацьбы, у апошні час удасканаленыя расійскімі спецыялістамі, знаходзяцца ў так званай ваеннай канцэпцыі Мяккай сілы. І Расія ў гэтай галіне з'яўляецца вельмі эфектыўнай, і хто ведае, ці не кіруе на яе фінансаванне значна больш сродкаў, чым амерыканцы або кітайцы. Коратка кажучы, гэта ваенная тэхніка, якая заснавана на сацыяльным кантролі, у тым ліку на інфармацыйным змаганні і ідэалагічнай дыверсіі. Гэта дазваляе эфектыўна дасягнуць панавання над варожай дзяржавай шляхам пераняцця кантролю над механізмамі стварэння і правядзення яго знешняй палітыкі, кіраваннем эканомікай і культурай. Вядзе да гэтага падрыўная і маніпулятыўная дзейнасць, таксама звернутая да палітычных эліт і сілавых структур. Сярод іх набіраюцца агенты ўплыву. Агентаў уплыву змяшчаюць у дзяржаўным апараце, СМІ і мастацкіх колах. Іх асноўная задача складаецца ў тым, каб узяць пад кантроль палітычныя партыі, грамадскія рухі, няўрадавыя фонды, блогераў і незалежныя СМІ. Мэтай іх дзейнасці з'яўляецца перафармаванне менталітэту грамадства ў варожай краіне ў спосаб найбольш спрыяльны для агрэсара. Сучасная вайна з'яўляецца ўздзеяннем на масавую свядомасць у інфармацыйнай прасторы. Без сумневу, тэхналогія вайны Мяккай сілы расійская разведка паспяхова выкарыстоўвае і ў Польшчы. У сферы яе інтарэсаў з'яўляюцца менш вядомыя палітыкі, маладыя журналісты і пісьменнікі. Напэўна, агентура таксама аказвае значны ўплыў сярод прафашысцкіх арганізацый. Таксама многія незалежныя блогеры, здаецца, заражаны расійскім вірусам. Прычым Польшча з'яўляецца толькі часткай ваеннага фронту. Фронт тым больш актыўны, чым бліжэй да Расіі. Апошнія навіны з Беларусі таксама вельмі трывожныя. На думку аналітыка Андрэя Елісаева з Est-Centre, «колькасць прарасійскіх парталаў, публікуючых дэзынфармацыю аб Беларусі рэзка ўзрасла за апошнія два гады». Характарызуецца яна мовай нянавісці, накіраванай на незалежных журналістаў, прадстаўнікоў беларускай апазіцыі і нават чыноўнікаў, якіх лічаць сябрамі Захаду.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Велікодна-школьная мітусня (2)

На пачатак яшчэ рэфлексія наконт школьнай мітусні з забастоўкай настаўнікаў, пра якую пісаў я ў гэтым месцы тыдзень таму назад. Калі не ўдалося пратэстоўцам перашкодзіць у правядзенні экзаменаў гімназістаў і васьмікласнікаў, то, узяўшы ў палон матурыстаў, Саюз польскіх настаўнікаў пачаў сябе адчуваць моцным, палітычным гульцом. Але, як аказалася, маючы большасць у Сейме прэм'ер-міністр Матэвуш Маравецкі разам са сваімі саветнікамі, гаворачы шахматнай тэрміналогіяй, аб'явіў шах арганізатарам страйку, прыняўшы ў экспрэсным тэмпе папраўкі да асветнага закона, якія дазваляюць нават толькі самім дырэктарам допускаць матурыстаў да экзаменаў без удзелу педагагічнага савета. У такой бязвыхаднай сітуацыі ў мінулы чацвер старшыя СПН аб'явіў часовае прыпыненне забастоўкі. Пра новыя формы пратэсту ці далейшага страйку будзе вырашана ў верасні, з пачаткам новага школьнага года. Такое неспадзяванае рашэнне выклікала гнеў значнай часткі бастуючых настаўнікаў, якія хацелі пратэставаць да канца.

Да верасня ўрад мае і час, і сродкі, каб не дапусціць да таго, што адбылося якраз вясной. Калі арганізатары страйку думаюць, што выбары ў Сейм у кастрычніку 2019 года будуць ім спрыяльнымі, то, на жаль, памыляюцца. Уваходзячы ў палітызаванасць пратэсту, прынясуць яны яшчэ больш шкоды для сябе ў вачах грамадства, якое ўсё ж такі бачыць школу перш за ўсё як гаранта адукацыйнай справы, а не палітычнага гульца. Адзін з дырэктараў школы пасля таго, што здарылася, сказаў мне неафіцыйна, што бастуючыя настаўнікі павінны выйсці з такога прафсаюза і пасалць к чорту яганых лідараў, бо ў гэтай сітуацыі замест выйгрышу прыдбалі сімпатыю быццам прымірэнчаму ўраду.

Зараз стала яшчэ больш пэўным, што мясцовыя самаўрады, якім падпарадкаваныя школы згодна з законам за час забастоўкі не могуць выплаціць бастуючым зарплаты. А не чуваць, нягледзячы на заклікі прафсаюзаў, што ўдалося ім назбіраць столькі прыватных грошай, каб закрыць фінансавую дзіру пратэстоўцаў. Ну і самае найгоршае, што здарылася, гэта разлад у настаўніцкім асяроддзі, разлад паміж настаўнікамі і вучнямі з бацькамі. У выпадку гэтага страйку ўсе рэальна апынуліся ў пройгрышы. Як тады будзе выглядаць праца ў школе цягам бліжэйшых двух месяцаў і якая там зараз атмасфера працы лепш не гаварыць, толькі змаўчаць.

А мела быць пра Вялікдзень. Першы дзень каталіцкай Пасхі, а нашай Вербніцы, азмрочылі весткі са Шры Ланкі. Атака ісламскіх тэрарыстаў-самагубцаў на хрысціянскія касцёлы і гасцініцы з турыстамі прынесла ўжо звыш двухсот піцідзясці смяротных ахвяр і блізка пяцьсот цяжка параненых. Тое, што здарылася, не дазваляе проста быць абыякавым кожнаму чалавеку. Аказваецца, што хрысціянскі крыж з'яўляецца найбольш атакаваным рэлігійным сімвалам у дваццаць першым стагоддзі. Але за гэтымі атакамі, на жаль, штораз больш смяротных ахвяр. Да дабра гэта не вядзе, — паўтараюць паціху старэйшыя людзі. У нас на шчасце веруючыя могуць беспраблемна аддаваць пашану Ісусу Хрысту, як нашаму зямному Збаўцы.

Цягам апошніх двух тыдняў глядзеў я на адным з гістарычных тэлеканалаў дакументальнае кіно пра Ісуса Хрыста, бачанага і адчуванага самымі важнымі людзьмі з Ягонага часу. Сярод тых, пра каго можна было даведацца на фоне гістарычных падзей, былі, між іншым, Марыя і Іосіф, Ян Хрысціцель, Марыя Магдалена, Святы Пётр, Каяфа, Юда ці Понцій Пілат. Усе згаданыя асобы і іхні лёс непасрэдна звязаныя з нараджэннем, жыццём і смерцю Сына Божага. Неверагодна дэталёва прадстаўлены гістарычна-рэлігійны вобраз тадышняй эпохі. Навукоўцы абсалютна на зразумелай мове распавядаюць гісторыю кожнага героя ў кантэксце яго дачыненняў з Ісусам. Абсалютным шэдэўрам лічу паказаныя цуды, здзейсненыя Хрыстом, дзе дэталёва асвятляецца чаму менавіта былі яны такога, а не іншага кшталту. Сцэны, звязаныя з уваскрэсеннем Лазара, ці ўкрыжаванне самога Госпада выклікаюць дрыжыкі і проста прымушаюць чалавека па-сур'ёзнаму задумацца над нашым грэшным жыццём.

**Яўген ВАПА**

# Рукадзельніцы Гайнаўшчыны

Падвядзенне вынікаў XII Агляду гафту і карунак Гайнаўскага павета адбылося ў Гайнаўскім доме культуры ў перыяд Вялікага посту, але частка рукадзелля паказанага на выставе тычылася ўжо Вялікадня. Прэзентаваліся там выплятаныя і ўпрыгожаныя вышыўкай крыжыкам яйкі, з багатымі адмысловымі ўзорамі. У галерэі і вялікім калідоры дома культуры на экспазіцыі знаходзіцца многа гафтаваных і аздобленых карункамі прац рукадзельнікаў. Побач народнага мастацтва прэзентаваліся працы, зробленыя сучаснымі тэхнікамі і работы, у якіх сучасныя інспірацыі пераплятаюцца з традыцыйнымі матывамі і ўзорамі.



■ Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак адзначыў важнасць ідэі вяртання да традыцыі

Сустрэча пачалася з выступу Олі Волчык са Студыі эстраднай песні, якая дзейнічае ў ГДК. Выставу XII Агляду гафту і карунак адкрылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч і мастацкі кіраўнік дома культуры Ядвіга Лях-Кучкін.

— На выставе прэзентуюцца займальныя працы, для якіх выканання неабходная цярплівасць. Увагі заслугоўваюць работы з традыцыйнымі матывамі і працы з сучаснымі інспірацыямі, — заявіў бургамістр Ежы Сірак, які адзначыў важнасць вяртання да традыцыі і паказвання рукадзелля шырокай публіцы, што натхняе новых асоб займацца традыцыйным рукадзеллем і шукаць у ім інспірацыі для новых матываў і кампазіцый.



■ Рукадзельніцы Галіна Бірыцкая і Хрысцінія Грыгарук (справа)

Мастацкі кіраўнік дома культуры Ядвіга Лях-Кучкін заявіла, што карыстаючыся здольнасцямі і будучы цярплівым, можа зрабіць прыгожае рукадзелле, што бачна на выставе. Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч пахваліў умеласці і працавітасць жанчын з Гайнаўкі і іншых мясцовасцей Гайнаўскага павета, якія ахвотна прымаюць удзел у штогадовым аглядзе гафту і карунак. Разам з бургамістрам Ежым Сіракам уручаў ён усім удзельнікам агляду дыпломы і падарункі. Адказная за правядзенне агляду старшая інструктар па справах мастацтва ў ГДК Анна Тарасюк звярнула ўвагу на многіх пастаянных удзельнікаў агляду, якія штогод дасылаюць новыя цікавыя працы.

— На сёлетняй і мінулагодніх выставах прэзентавалі мы многа ўзораў традыцыйнага рукадзелля, матывы якога непасрэдна адклікаюцца да творчасці нашых продкаў. Аднак штораз больш паяўляецца новых матываў, узнікаюць работы, выкананыя новымі і мяшанымі тэхнікамі, — сказала Анна Тарасюк. — Апошнім часам большае колькасць удзельнікаў нашага агляду. Сёлета паказваюцца працы сарака рукадзельнікаў, якія давезлі на агляд каля двухсот работ

На сёлетняй экспазіцыі прэзентуецца многа прац мастацкага рукадзелля, паказваюцца вышываныя ручнікі, абрусы і сурвэткі. Побач работ з традыцыйным гафтам, можна ўбачыць гафтаваныя працы з сучаснымі матывамі. Павялічваецца таксама колькасць вышываных карцін, найчасцей выкананых крыжыкам. Такой тэхнікай выконваюцца таксама копіі ікон, якія можна ўбачыць таксама ў цэрквах. Моніка Балтручук выканала на агляд вельмі ўдалыя партрэты асоб. Спецыялісты ўдакладнілі, што пры дапамозе камп'ютарных праграм можна вельмі дэталёва распісаць выкананне карціны крыжыкам.

Станіслава Шымчук цікава вышыла крыжыкам фларыстычныя матывы на спадніцы. Гэтай вышыўкай зацікавіліся жанчыны. Аднак часцей затрымліваліся яны каля біжутэрыі Анны Харытанюк, дачкі спадарыні Станіславы.

— Я падгаварыла маму запрэзентаваць на аглядзе вышыўку. А я паказваю свае ашыйнікі, выкананыя тэхнікай сутаж. Спецыяльна купіла сукні, якія складаюць фон для маіх прац. Рыхтуючы ашыйнікі, шукаю для іх новых матываў. Інспірацыяй для маіх работ з'яўляецца таксама наша традыцыя. Рукадзелле патрабуе многа часу, але дае таксама многа задавальнення і дапамагае адпачыць ад штодзённай мітусні, — сказала Анна Харытанюк.

Апрача жыхарак Гайнаўкі, якія ў выдатнай большасці родам з навакольных вёсак, найбольш прац на агляд пастаўляюць вышывальшчыцы з Нараўчанскай гміны. Галіна Бірыцкая з Плянты выканала ручнік з традыцыйным гафтам і карункамі, цікавую блузку з традыцыйнай вышыўкай і іншыя працы.

— Я хіба як адзіная ўдзельніца дванаццатага агляду прымала ўдзел ва ўсіх папярэдніх яго выпусках. Магу іх параўнаць і бачу, што ўзровень прац павышаецца. Традыцыйныя ўзоры і матывы з'яўляюцца для мяне крыніцай інспірацыі. Паводле іх я найчасцей ствараю свае ўзоры для гафту і карунак у традыцыйных канонах. Прывозіла я на агляды ручнікі з даўнімі ўзорамі, работы выкананыя кручком з даўнімі матывамі і вышываныя копіі ікон. Карыстаюся таксама сучаснымі матывамі, выконвала крыжыкам між іншым карціны. Сваё рукадзелле прадаю падчас беларускіх фэстаў і іншых мерапрыемстваў. Хаця я прыхільніца традыцыйнага рукадзелля, якое выконваю з іголкай і кручком у руках і падабаюцца мне даўнія ўзоры, раблю таксама пошукі новага. Зараз можна знайсці многа матэрыялаў наконт даўняга і сучаснага рукадзелля і хто захоча, можа выконваць тое, што яму падабаецца, — сказала Галіна Бірыцкая.

Яе сяброўка з Плянты Малгажата Краўчык, вышываючы сурвэту, зрабіла цікавае састаўленне колераў, а кручком выканала шыкарныя, цікавыя ў каларыстычным плане хусткі, якія можна павесіць таксама ў якасці аздобы. Станіслава Харкевіч зрабіла кручком прыгожыя абрусы, фіранкі і сурвэты. Люцына Зданоўская выканала прыгожыя палатняныя сурвэты, якія ўпрыгожыла цікавым гафтам. Марыя Каральчук вышыла крыжыкам копію іконы Божай Маці. Цікавае і арыгінальнае рукадзелле выконвае Людміла Карпюк з Дубіч-Асочных.

— Я выконваю працы тэхнікай філігрань. Карыстаючыся ільняным шнурком, стараюся выканаць цікавыя кампазіцыі, а свае працы раблю трывалымі з дапамогай клею. На агляд такім спосабам выканала я велікоднае яйка з падстаўкай, гадзіннік і сурвэтнік, а іншае яйка ўпрыгожыла залацістым гафтам, пацеркамі і іншымі аздабленнямі, паколькі многія мае працы выконваю мяшанай тэхнікай. Падабаюцца мне традыцыйныя працы, але на апошніх аглядах штораз больш прэзентуецца арыгінальных і цікавых работ выкананых новымі тэхнікамі, — сказала Людміла Карпюк.

Пастаянная ўдзельніца агляду гайнаўянка Зінаіда Бакун, родам з Шастакова, на навейшую выставу выканала цікавую вышыўку, а ў рэкламны буклет агляду трапілі яе сурвэты з прыгожым матывам рознакаляровых кветак. Яе сяброўкі, таксама пастаянныя ўдзельніцы гайнаўскіх аглядаў Лена Шчыгельская і Яніна Плева выканалі кручком вельмі прыгожыя абрусы.

— Я вышываю крыжыкам і ад некалькіх гадоў прымаю ўдзел у аглядзе. Ёсць тут магчымасць запрэзентаваць свае навейшыя работы, паглядзець працы іншых удзельнікаў выставы. Можна тут таксама паразмаўляць пра тэхнікі выконвання прац, — сказала Ірэна Галавачык, якая вышыла крыжыкам на падушках цікавыя фларыстычныя матывы.

Матывы, інспіраваныя даўнімі ўзорамі карунак, запрэзентавала на сваіх сурвэтах і іншых працах выкананых кручком Хрысцінія Грыгарук, якая як адзіная ўдзельніца агляду жыве па-за Гайнаўскім паветам, у Орлі. Стала яна супрацоўнічаць з Гайнаўскім домам культуры і пастаянна дасылае сваё рукадзелле на агляды ў Гайнаўку. Прадае яго таксама на беларускіх фэстах.

Юсцінія Самойлік не скрывала, што многа часу працуе з кручком у руках. На гэты раз зрабіла кручком арыгінальныя рознакаляровыя выявы казачных постацей. Давід Слухоцкі і Павел Божка вышылі прыгожыя матывы, перш за ўсё з кветкамі.

Абрусы, сурвэты і фіранкі выкананыя кручком, ручнікі і абрусы, вышываныя з выкарыстаннем мясцовых узораў, якія прэзентуюцца ў ГДК, гэта частка матэрыяльнай спадчыны мясцовага насельніцтва. Нашы продкі ўпрыгожвалі імі свае хаты. Цяпер жанчыны з Гайнаўшчыны ахвотна вяртаюцца да матываў і ўзораў нашага народнага рукадзелля, якое становіцца таксама модным. Агляд гафту і карунак, арганізаваны Гайнаўскім домам культуры, дае магчымасць паказаць прыгожыя працы традыцыйнага рукадзелля і цікавыя работы з сучаснымі матывамі і ўзорамі жыхарам Гайнаўкі і з дапамогай масмедыяў таксама шырэйшай публіцы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## Ажываюць успаміны

Нядзеля 21 красавіка. Вернікі Каталіцкага касцёла адзначаюць Вялікдзень, праваслаўныя — Вербніцу. У палаце № 11 рэабілітацыйнага аддзялення Гайнаўскага шпіталя, якую ад тыдня раздзяляю з трыма сукватарантамі (каталікамі), цішыня і спакой. Двух па пропуску падалося дахаты на велікодныя святкаванні, а мы з Рышардам засталіся ў палаце. Мой сукватарант не вельмі гаваркі. Займаецца чытаннем газетных «фактаў», а я... аддаюся ўспамінам. І раптам усё ажывае ад пачатку: дзяцінства, школьныя гады, маладосць ды сужонства з незабыўнай памяці Аннай Сцяпанаўнай. Адышла ў вечны спачын адзінаццаць гадоў таму. Застаюся ў дамашнім ачагу быццам пустэльнік у келлі. Самоту раздзяляю з неразлучным сябрам — камп'ютарам. Гэта маё акно на свет. Кожнага ранку адкрываю электронную пошту, чытаю навінкі ад айчынных і замежных сяброў па фейсбуку. Вось сёння атрымаў навінку ад Марыі Кандрацюк з Бельгіі: «Прывітання з Вербною Няділею» з далучанай песняй, прысвечанай, разумеецца, хрысціянскай традыцыі Вербнай нядзелі.

Была гэта цудоўная традыцыя. Тыдзень наперад прыносілі галінкі вярбы дахаты, ставілі ў бутэльку або збанок, каб галінка пусціла лісткі. Затым у Вербную нядзелю ўпрыгожвалі іх каляровымі стужкамі і шпаргусам, пасля падаваліся ў царкву на пасвячэнне. Пасля вяртання з царквы асвячонай галінкай «білі» сямейнікаў прыгаворваючы:

*Верба б'е нэ заб'е,*
*за тры дні, за тры ночы*
*дачакаем Велькай ночы...*

Увесь наступны тыдзень пасля Вербніцы рыхтаваліся да Пасхі. Жанчыны рыхтавалі мазуркі, упрыгожаных каляровымі быццам мак цукерачкамі ды пяклі здобнае пячэнне. Мужчыны рыхтавалі мясныя вырабы — каўбаскі «пальцам напханыя», кумпякі, сальцісон і грудзінку. Пасвячэнне вербачак ды Пасхі адбывалася ў мясцовай царкоўцы. На ўсяночную кузаўцы ехалі ў Кляшчэлі. Запамяталася мне такое здарэнне.

Было гэта ў 1957 годзе. Кузаўскія самадзейнікі з гуртка Саюза вясковай моладзі (ЗМВ) на Вялікдзень рыхтавалі выступ у мясцовай святліцы. Я быў важаком і арганізатарам мерапрыемства. На рэпетыцыю дамовіліся сабрацца ў сяброўкі Лідкі Стаськевіч. Сабраліся зранку. Гаспадары якраз вярнуліся з усяночнай з Кляшчэляў. Прысеўшыся да снедання, бацька сяброўкі, Міхаль, папрасіў мяне да застольнай кампаніі. Памятаю, што выпілі мы паўтарак «цукроўкі». Ап'янелы я не мог вярнуцца да сваёй кампаніі. Затым ціхенька выкарабкаўся з хаты гасцінных гаспадароў і паплёўся па-за стадоламі дамоў, каб аднавяскоўцы не бачылі. Выйшаў на вуліцу на скрыжаванні дарог паміж сядзібамі Яна Смыка ды Яна Рэпкі. Прахозячы побач суседа Кастуся Раманчука, яго жонка, Марфа ўгледзела мяне. Затым на адвячорку прыбегла да маці ў разведку. А я тым часам у святочным касцюме, басанож, выцягнуўшы ногі спаў на кухні. Маці адно пантофлі з ног ссунула...

Рэпетыцыю правялі на другі дзень. Затым і выступ паспяхова адбыўся са святочнай забавай. Мне толькі непазбежна блыталася думка па галаве: «Ці хтосьці мяне бачыў ап'янелага як я вяртаўся дамоў?». Неўзабаве таямніца выявілася. Усё сяло быццам у барабан бубніла, як я «касяком» ад Міхаліхі вяртаўся. Аб усім расказала языкатая суседка Марфа Раманчукова. Гэта было маё першае велікоднае «хрышчэнне» ў кавалерскім стане.

**Уладзімір СІДАРУК**

## **Айцец Гаўрыіл Бяламызы** — доктар Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі

**7 сакавіка г.г. у Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі адбылася публічная абарона доктарскай дысертацыі ўраджэнца Нараўкі, айца магістра Гаўрыіла Бяламызага, настаяцеля Парафіі св. Спірыдона Трыміфунцкага ў горадзе Мінск-Мазавецкі.**



Галіною навуковых даследаванняў святара была праваслаўная літургічная тэалогія, плёнам якіх стала праца «Літургія святога Якуба, брата Гасподняга, у якасці прыкладу эклезіяльнага паслання веры. Тэалагічна-кампаратыўны аналіз». Навуковым кіраўніком дысертацыі быў прафесар доктар тэалагічных навук Уладзімір Валасюк, а рэцэнзентамі — епіскап супрасльскі, доктар тэалагічных навук Андрэй (Баркоўскі), праф. Беластоцкага ўніверсітэта, а таксама а. праф. доктар тэалагічных навук Яцэк Новак, загадчык Кафедры тэалогіі літургіі ў Інстытуце тэалогіі Універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве. Старшынёю камісіі быў кіраўнік Секцыі праваслаўнай тэалогіі, архіепіскап праф. ард. доктар тэалагічных навук Георгій (Панькоўскі).

Абарона пачалася з дэманстрацыі навуковым кіраўніком навуковага сілуэта аспіранта. Затым з аўтарэфератам на тэму напісанай дысертацыі выступіў яе аўтар. У сваёй дысертацыі, якая складаецца з трох шырокіх раздзелаў на 222 старонках, аўтар паспрабаваў адказаць на пытанне: якое значэнне ў керыгме веры нясе пасланне літургічнай традыцыі святога Якава, брата Гасподняга. Далей, пасля чытання рэцэнзій, якія ў адзін голас заяўлялі пра ўнікальную праблематыку працы, дактарант адказаў доктарскай камісіі з сямі чалавек на пытанні, зададзеныя рэцэнзентамі, кіраўніком і аўдыторыяй. Пасля кароткай нарады камісія аднагалосна прызнала станоўчае рашэнне аб праведзенай абароне дысертацыі і накіравала ў Савет Факультэта тэалогіі ХТА прапанову пра наданне а. маг. Гаўрыілу навуковай ступені доктара багаслоўскіх навук у галіне практычнай тэалогіі.

А. док. Гаўрыіл Бяламызы нарадзіўся ў Гайнаўцы ў сям'і святара. Дзяцінства і юнацтва правёў у Нараўцы, дзе пачаў адукацыю на пачатковым этапе навучання. Разам са школьным абавязкам паралельна пачаў адукацыю ў галіне мовы меншасці і беларускай культуры. Скончыў Комплекс сельскагаспадарчых школ у Чартаеве (2006), Вышэйшую праваслаўную духоўную семінарыю ў Варшаве (2009), а таксама магістратуру (2012) і аспірантуру ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Падчас навучання, 7 студзеня 2010 г., пасвечаны ў лектара епіскапам сямятыцкім Георгіем. Выконваў абавязкі рэгента-псаломшчыка ў варшаўскіх універсітэцкіх капліцах Святой Тройцы (2010-2012) і святых Кірылы і Мяфодзія (2012-2013).

2 жніўня 2013 г. быў пасвечаны ў дыякана ў царкве Уваскрэсення Хрыстова ў Сямятычах з рук мітрапаліта варшаўскага і ўсёй Польшчы Савы. У 2013-2016 гг. быў дыяканам ва ўніверсітэцкай капліцы святых Кірылы і Мяфодзія ў Варшаве.

Пачынаючы з 1 лютага 2016 г. ён быў прыняты ў склад духавенства Люблінска-Холмской епархіі і прызначаны дыяканам парафіі Святой Тройцы ў горадзе Седльцы. Пасвечаны ў святары 21 лютага 2016 г. у кафедральным саборы Праабражэння Гасподняга ў Любліне архіепіскапам люблінскім і холмскім Авелем. У 2016-2018 гадах быў вікарыем парафіі ў Седльцах, адначасова яго пастырскай апецы была даверана праваслаўная супольнасць у Мінску-Мазавецкім. З 22 студзеня 2018 г. з'яўляецца настаяцелем парафіі св. Спірыдона Трыміфунцкага ў Мінску-Мазавецкім.

Разам з матушкай Елізаветай выхоўваюць траіх дзяцей.

Ад усёй душы віншуем!

**Айцец Андрэй КАНАХОВІЧ**
Люблінскі Інстытут Праваслаўнай Культуры

# ТОЛІК І КОЛІК — КАНЦЭРТ ПАЖАДАННЯЎ

— У эфіры Радыё Рацыя. На гадзінніках маем пяць хвілін пасля васямнаццатай. Слухаем «Канцэрт пажаданняў», — на цэлы гарадоцкі лес грымеў Толікаў радыёпрыёмнік маркі «Верас». Колік усхапіўся з-пад кушэткі і закрычаў:

— Чаго ж ты зараза наставіў радыёпрыёмнік на ўсё горла! Разбудзіў мяне, сволач!

Заглянуў у зямлянку, але на здзіў Толіка не было. Стаў разглядацца па лесе, але таксама не заўважыў Толіка. Стаў крычаць:

— Тоооо-о-лік, Толік, дзе ты?

Нідзе Толіка не было. Толькі рэха неслася па лесе: «Т-оо-о-лік, дзе ты-ы-ы?».

У той суботні вясновы вечар Толік узяў стары веласіпед маркі «Урал» і паехаў у Гарадок да Валодзіка.

— Слухай, Валодзік, я прыехаў да цябе пакарыстацца тэлефонам.

— Няма справы. Укінь залатоўку і гавары колькі хочаш.

У Валодзіка быў апошні тэлефон-аўтамат у вёсцы, які калісьці Валодзік прыдбаў у Беластоку, прывёз і паставіў у сваёй хаце. Таксафонаў у гарадах Польшчы ўжо даўно не было, усе даўно мелі мабільныя тэлефоны і то не абы-якія, але смартфоны і айфоны. А Валодзіку навошта купляць мабільнік, калі можна дарэмна мець тэлефон. Калі хто хацеў пазваніць *incognito*, прыходзіў да Валодзіка і званіў у свет. А людзі званілі і прэзідэнту, і начальнікам са скаргамі і даносамі. Прытым Валодзік мог падзарабіць на тых, хто хацеў заставацца *incognito*.

Колік перастаў шукаць Толіка, лёг пад сасною і слухаў Радыё Рацыя.

— У эфіры маем першага нашага слухача. Скуль вы звоніце і каму вы хацелі перадаць прывітанні?

— Тут Толік. Я проста хацеў бы перадаць пажаданні Коліку, у якога сёння дзень нараджэння.

— Вельмі прыемна. А адкуль вы звоніце да нас?

— Я «інкагута» хацеў бы зрабіць рэкламу. Проста смаката, прыязджайце да нас у гарадоцкі лес па нашу падляшскую самагонку...

—... І гэтым мілым акцэнтам канчаем першую гадзіну нашага канцэрта пажаданняў. І...

Нешта прарвала голас Толіка і ў эфіры ляцела песня гурта «Ас» — «Гэй-гоп «Бяседа»/, Старых баб не трэба/ Маладых давайце/А вы хлопцы грайце».

Аднак Толік па-за эфірам далей дыскутаваў з журналістамі Радыё Рацыя.

— Ці ж вы здурэлі! Наша радыё слухаюць і дзеці, і паважаныя людзі, а вы тут самагонку рэкламуеце! — даказваў журналіст.

— Дзеці зараз не дурныя і даўно не вераць у буслоў...

— Што буслы маюць да самагонкі?! Ці вы разумееце, што ў эфіры Радыё Рацыя нельга нічога рэкламаваць?! Мы па гэтай прычыне можам мець сур'ёзныя клопаты!

— Чорт сваё, поп сваё! Я нічога дрэннага не зрабіў. Проста зрабіў рэкламу экалагічнаму прадукту гарадоцкіх лясоў.

— Мы не патрабуем вашай рэкламы...

— Людзі, давайце дагаворымся. Я вам самагонку падвязу ў студыю, а вы ціха пусціце справу як бы нічога не было.

— Як ціха, калі ўжо цэлае Падляшша чула! Што там Падляшша — увесь свет слухае нас па інтэрнэце!

— Людзі добрыя, давайце дагаворымся ...

Аднак журналісты разлучылі Толіка, паколькі ў студыі раззваніся тэлефоны.

— Мы, беларусы Канады, пытаем дзе той гарадоцкі лес. Мы зацікаўлены экспартам самагонкі ў Канаду...

— І гэтым мілым акцэнтам беларусам з Канады пускаем беларускую песню ў выкананні...

У эфір прарвалася песня «Ты думай, думай» гурта «Прымакі».

— Ну і Толік, наварыў ты кашы! — узяўся за галаву Колік і слухаў як беларусы з усяго свету званілі толькі дзеля таго, каб даведацца адкуль можна купіць самы смачны напітак беларусаў Падляшша.

Прайшло пару дзён і рэклама на Радыё Рацыя зрабіла сваё. У гарадоцкі лес ехалі аўтафуры, грузавікі на нумарах з усяго свету. Гэта беларусы з усяго замежжа ехалі за гарадоцкай самагонкай. Вядома, свайго ваўка заўсёды цягне ў лес. А Колік праклінаў Толіка:

— Цераз цябе, халера, не сплю ўдзень і ўночы, толькі варым і варым самагонку!

— Не бойся. Неўзабаве будзем мець столькі грошай, што перастанем самі варыць самагонку, а на працу возьмем рабочых.

Таму ў «Беластоцкую газету» Толік падаў аб'яву наступнага зместу: «Праца на свежым паветры, 20 злотых у гадзіну плюс дарэмная пляшка самагонкі ўдзень, працоўная дамова, падатак, сацыяльнае страхаванне, веданне беларускай мовы». Неўзабаве ў гарадоцкім лесе выстойвала вялізная чарга ахвотных да працы мужчын у розным узросце.

— Гавораць, што працы на Падляшшы няма, а тут мне такое шчасце зляцела з неба, — цешыўся малады мужчына.

— Гэта праца маіх мар, — шчыра прызнаваўся малады выпускнік беларускай філалогіі, які меў праблему знайсці працу.

— А тут такое шчасце!

Яго Толік і Колік таксама прынялі. У чарзе былі таксама беспрацоўныя з Украіны, Тайваня, з усяго свету. Усе знайшлі працу ў фабрыцы самагонкі. У той час рабочыя пад кіраўніцтвам Толіка і Коліка будавалі ў гарадоцкім лесе фабрыку самагонкі і інтэрнат для рабочых. Таксама будавалі офіс для фірмы, якая займалася сусветным гандлем. Працы было шмат, а бізнес разрастаўся і разрастаўся. Дарэчы, Толік і Колік падпісалі дагавор на пастаўку самагонкі ў Беларусь, Расію і Украіну ды нават у Кітай. А Толік і Колік дзівіваліся, што на свеце бракавала добрай самагонкі. Неўзабаве абанкруціліся манапольныя заводы ўсяго свету, таму што ўжо ніхто не піў купнай гарэлкі, толькі гарадоцкую самагонку. А Толік і Колік пабудавалі свае заводы не толькі ў Бельску, Гайнаўцы, Саколцы, Сямятычах, але і ў цэлай Польшчы, а таксама на Беларусі, Украіне і Расіі.

**Юрка БУЙНЮК**

# 2019 — год юбілею Манюшкі

## 5.05.1819 - 4.06.1872

На станцыі Варшава-Цэнтральная ў вочы адразу ж кідаецца банер-расцяжка, які нагадвае, што ў 2019 годзе адзначаецца 200-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі. Варта адзначыць, што Цэнтральны вакзал Варшавы, размешчаны па Ерусалімскіх алеях, з 5 студзеня 2019 года афіцыйна носіць імя гэтага вядомага кампазітара. А Сенат РП аб'явіў 2019 год — годам юбілею Манюшкі.

На варшаўскі перыяд жыцця вялікага кампазітара, дырыжора і педагога Станіслава Манюшкі прыйшоўся росквіт таленту. Пра яго творчы шлях і жыццё ў Польшчы напісаны шматлікія манаграфіі, а творы захоўваюцца ў Варшаўскім музычным таварыстве.

Бясспрэчны і факт, што на музычную спадчыну вялікага кампазітара прэтэндуюць тры дзяржавы — Беларусь, Польшча, Літва. Да гонару гэтых трох народаў варта адзначыць, што музычная культура ўзбагачана творчасцю ліцвіна Станіслава Манюшкі. І як тут не ўспомніць аб кагорце выдатных асоб XIX стагоддзя: Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі і іншых суайчыннікаў, якія тварылі ў гэтыя гады.

Розныя сачыненні кампазітара (ад оперных уверцюр да песень і рамансаў), што выйшлі з-пад пяра ў Беларусі, у Літве і ў Польшчы гучалі на другім Беларускім фестывалі мастацтваў «Мірскі замак-2004», прысвечаным 185-годдзю кампазітара Станіслава Манюшкі. Тым самым была пацверджана ідэя непарушнасці і непадзельнасці манюшкаўскай спадчыны паміж часамі і народамі.





Міхаіл Фінберг (2004 г.)



Фэст «Мірскі Замак» (2004 г.)

З музычнай творчасцю Станіслава Манюшкі пастаянна знаёміць і калектыў Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы прафесара Міхаіла Фінберга цераз шэраг творчых праектаў у Мінску і ў абласных гарадах, на фестывалях у Міры і Нясвіжы. Станіслаў Манюшка нарадзіўся на Міншчыне (у маёнтку Убель), шмат гадоў жыў у Беларусі, вучыўся ў Мінску. Працаваў музыкант і ў Вільні, а ў сталыя гады перабраўся ў Варшаву, дзе набыў славу класіка польскага музычнага мастацтва і талент прызнаны ў Еўропе. У ранні беларускі перыяд творчасці ён напісаў большасць камерна-вакальных кампазіцый (яны аб'яднаны ў «Хатні песеннік»), дзе з любоўю, густам і майстэрствам увасобіў беларускія народна-жанравыя сюжэты. У Мінску ў 1852 годзе пастаўлена і знакамітая «Сялянка», створаная Манюшкам у садружнасці з Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. Гэта этапны для айчыннага мастацтва твор упершыню вывеў беларускую мову на прафесійную музычна-драматычную сцэну.



Цэнтральны вакзал Варшавы

І напісаныя яны на вершы нашых суайчыннікаў. Яшчэ ў 1844 годзе С. Манюшка звяртаўся да паэта і фалькларыста Яна Чачота з просьбай даслаць вершаваныя тэксты. Словы некаторых песень, што адправіў паэт, сталі блізкія кампазітару, бо ён чуў іх у дзяцінстве і лёгка паклаў на музыку. Толькі ў 1848 годзе на вершаваныя запісы Чачота Манюшка напісаў песні «Дуброва», «Думка», «Зязюля», «Сірата», «Сонейка», «Шумі, гай», «Пералётныя птушкі», «Выбар». Для музычных твораў выкарыстаў таксама вершы Міцкевіча, Сыракомлі. Кампазітар стварыў 20 опер і аперэт, тры балеты, два рэквіемы, сотні песень, у тым ліку «Паходную песню літвінаў» на словы Уладзіслава Сыракомлі.

З 1864 года і да апошніх дзён жыцця Станіслаў Манюшка працаваў прафесарам Музычнага інстытута ў Варшаве. Ясныя і дэмакратычныя творы Манюшкі, напісаныя на аснове беларускага фальклору, адразу набылі папулярнасць. Яго песні і цяпер часта ўваходзяць у рэпертуар беларускіх оперных артыстаў.

Станіслаў Манюшка — заснавальнік польскай класічнай музыкі, а імя і творчая спадчына становяцца больш шырока вядомыя ў Беларусі. Увосень 2016 года скульптурную кампазіцыю стваральнікам беларускай нацыянальнай класічнай оперы кампазітару Станіславу Манюшку і беларускай драматургіі Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу ўсталявалі ў скверы на плошчы Свабоды ў Мінску. У былым фальварку Убель паблізу Чэрвеня ўстаноўлена стэла з надпісамі на беларускай і польскай мовах пра тое, што тут нарадзіўся знакаміты кампазітар, дзейнічае экспазіцыя ў Чэрвеньскім раённым краязнаўчым музеі. У многіх гарадах Польшчы, у Мінску, Гродне ў гонар Станіслава Манюшкі названы вуліцы.

А для нас, жыхароў Свіцязянскага краю, музычная спадчына Манюшкі каштоўная тым, што тут выкарыстаны беларускія народныя матывы і мясцовы фальклор, згадваюцца героі твораў А. Міцкевіча, Я. Чачота, У. Сыракомлі.

Тэкст і фота
**Пятра ЖЭБРАКА**

## Наша «Чарамшына»

Фалькавы гурт «Чарамшына» з Чаромхі добра вядомы ў Айчыне ды за мяжою. Славіць нашу Малую Айчыну — Гайнаўшчыну, Падляшша, а перш за ўсё квітнеючую напрадвесні маляўнічую родную Чаромху. З прыемнасцю хачу адзначыць, што гурт выдаў другі кампакт-дыск «Журба» («Тэскнота»), на якой змешчаны дзесяць песень: «Высылала маты», «Калына-малына», «Через поле», «Тыха, тыха», «Ой куме, куме», «Там у полі два дубочкі», «А там у лузі», «Ты казала», «Марічка» і «Черноморец». Варта адзначыць, што «Чарамшына» ў 2004 годзе была лаўрэатам інтэрнэтавага плебісцыту «Віртуальныя гуслі» за кружэлку «Гуляй пукі час». Да поўначы 30 красавіка доўжыцца яшчэ шаснаццаты выпуск таго ж плебісцыту, у якім гурт прэзентуе свой новы дыск. Варта затым падтрымаць свой нацыянальны фалькавы калектыў і прагаласаваць за яго. **(ус)**

## Настала вясна

Прымаўка напамінае: «Квецень — плецень, бо пшэплята, трохэ зімы, трохэ лята». Так і ў гэтым годзе справа маецца. Ночы халодныя з замаразкамі, у дзень часам дваццаць градусаў цяпла. Але па ўсім бачна, што настала вясна. Прырода будзіцца са сну. Дрэвы пучацца, лісткі пускаюць, неўзабаве абсыплюцца квеценню. У маім агародчыку паказаліся прадвеснікі, першыя грыбы — смаржкі. Штогод вырастаюць яны пад яблынямі ў зялёным імху. Сёлета вырасла іх больш за дзесяць. Я іх не зрываю, хоць яны прыдатныя ў ежу. Даўней мы з бацькам смаржкі збіралі ў лесе, затым нізалі на вяночкі ды сушылі ў цяньку. У Варшаве на рынку дорага за іх плацілі. Зараз ніхто смаржкоў не збірае.

Некалькі дзён таму бачыў я два лятучыя буслы над вуліцай. Кажуць, што гэта добрая прыкмета. Значыцца, не заседжуся на месцы, поспехаў магу спадзявацца. А я заўтра, 15 красавіка, у Гайнаўку ў шпіталь на рэабілітацыю падаюся. Ці збудзецца народная прымаўка аб лятучых буслах, выявіцца за шэсць тыдняў. Усё ж такі хацелася б, каб яна збылася.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Беласток у кветках

Летам Беласток выглядае прыгожа. У горадзе шмат кветак. У мінулым годзе пасадзілі 200 дрэўцаў, між іншым, ліп і сасў, 4 тысячы шматгадовых кветак і 5,5 тыс. кустоў розных раслін.

Зараз на скрыжаваннях вуліц з кругавой развязкай, у парках і скверыках ды ў 193 стоячых пасудзінах для вазонаў у цэнтры горада цвітуць браткі, стакроткі і іншыя кветкі. Сёлетняй вясной пасадзяць 150 тысяч вясенова-летніх кветак. У кветкавым агародчыку ў парку Браніцкіх зацвітуць рознакаляровыя цюльпаны, гіяцынты, нарцысы і іншыя вясновыя кветкі. У парку Плянты пасадзілі многа браткаў і жоўтых нарцысаў. Шмат дзе ў горадзе цвітуць жоўтым цветам кусцікі фарзіцыі.

У цэнтры горада, між іншым, на Рынку Касцюшкі ды па вуліцы Ліпавай, у завешаных на слупах вулічнага электраасвятлення вазонах зацвітуць бягоніі, фуксіі, петуніі гібрыднай і пеларгоніі. **(яц)**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування братам

**Яўгену і Антону МІРАНОВІЧАМ**

і іхнім сем'ям з прычыны напаткаўшага іх гора – смерці бацькі **Васіля**.

**рэдакцыя Нівы**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Мудрасць старых дрэў!

Ёсць такая падляшская прымаўка пра поўную шчасця: *Мне 18 лет і месяц май!*

Май — гэта пара, калі хочацца спяваць не толькі птушкам. Ад вякоў радаснай песняй людзі віталі вясну. Часта май называюць яшчэ «травень». Менавіта ў гэтым месяцы зямля пакрываецца зялёным дыванам з розных траў. У зялёнае ўбранне апранаюцца таксама дрэвы, першай распускае свае косы бяроза і квітнее духмяная чаромха. Гэтае дрэва — асаблівы прыродны барометр. Звычайна ў час яго квітнення нахлынаюць халады, якія ў народзе называюць «чаромхавымі». Пасля чаромхі зацвітае бэз, які ў адрозненні ад чаромхі, любіць цеплыню. Разам цвітуць сады. Тады з выраю вяртаюцца ластаўкі і стрыжы, якія кормяцца насякомымі.

Сёння ў нашых агародах шмат экзатычных дрэў, якіх квітненне не сыходзіцца з народнымі назіраннямі. Яны самі не ўмеюць адчытаць надыходзячай аўры і заранёў распускаюць пялёсткі ды ў майскія замаразкі губляюць кветкі і плады.

А старыя, прыпісаныя краявіду і клімату дрэвы, чакаюць зручнага моманту.

У гэтым годзе ў Беластоку нарадзілася добрая, зялёная ідэя. На гарадскіх скверах і газонах камунальныя службы пасеялі розныя травы, характэрныя нашым лугам. Заменяць яны стрыжаныя, бяздушныя газоны і будуць карміць пчолак і насякомых. Праект — гэта вяртанне да мясцовых назіранняў прыроды і належная ацэнка старым, лакальным пародам раслін.

Квітнеючыя расліны і птушкі выдатна падносяць узровень шчасця.

На нашым панадворку таксама будзе весела. Неўзабаве пройдуць раённыя і цэнтральныя конкурсы беларускай песні. Пачынаецца таксама падляшска-палескі фестываль «Там по маёвуй росі», які нельга абмінуць.

ЗОРКА



Вясна з Пагоняй у гімназіі н-р 7



На ўроку ў бельскай «тройцы»

**Леанід Дайнека**

* * *

А Бог вясны прыходзіць босы,
З жалейкай звонкай у руках.
Лугі сінеюць, як нябёсы.
Сузор'і кветак на лугах.
Ручай, нібы дзіця, лапоча.
Бягуць на поўнач халады.
Па чорным полі гулка крочаць
Мільёнаногія дажджы.
Звяры і птушкі ў першым класе.
Штурмуюць сонца мурашы.
Спявае вецер. Пачалася
Веснафікацыя душы.
Як добра жыць у дзень вясенні,
Душой адтайваць пакрысе
І адчуваць сябе насеннем,
Што неўзабаве прарасце.
І скінуўшы з душы трывогу,
Паверыць сонцу і вадзе,
Знайсці адзіную дарогу,
Што ў край бацькоўскі прывядзе.
На небасхіле ўжо маячыць
Зеленакрылы ветразь дрэў.
О дрэвы родныя, я плачу
Ад радасці, што вас сустрэў.
Шумі, звіні, жывое вецце!
Паклон табе, турботны лёс,
За гэты міг, за гром, за вецер,
За вочы мокрыя ад слёз.

## УВАГА КОНКУРС! № 18-2019

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 19 мая 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Рос белы шар, падуў вецер — і шар паляцеў.**

**(А........)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 14: галава. Узнагароду, кніжку Рыгора Барадуліна «Азбука», выйграла Алўка Банькоўская з Гайнаўкі. Віншуем!**

# Вандроўка па гісторыі Гарадка

Вучні IV «а» класа ў Гарадку наведалі Дом культуры, дзе паглядзелі выставу. Спадарыні Дарота Сульжык і Магда Лотыш прапанавалі нам падарожжа ў часе, дзякуючы якому мы маглі пабываць у гады жыцця нашых бабуль і дзядуляў. Спадарыні ўвайшлі ў розныя ролі гэтай эпохі. Мы пабачылі рэквізіты мінулага: старую вопратку, інтэр'ер пакоя, бытавую тэхніку, старыя цацкі. І гэты казачны ўрок завяршыўся пытаннямі пра гісторыю Гарадка.

*Кшысь Канаховіч,*
*ПШ у Гарадку,*
*чацвёрты «а» клас*

(*Беларуская народная легенда*)

## Як святы Юры стаў апекуном коней

Аднойчы Бог склікаў пад вялікі дуб жывёлу. Разам з'явіліся ўсе святыя, толькі адзін Юры дзесьці замарудзіў у дарозе. На сход прыпёрся таксама нячысты дух, які прыхаваўся за плячыма святых і чакаў зручнага моманту. На сходзе Бог назначыў кожнаму стварэнню яду, ды кожны атрымаў тое, што найбольш любіў. Нячысцік выпрасіў для сябе авёс, каб такім чынам узяць уладу над коньмі. І тут з'явіўся святы Юры. Ён стаў прасіць у Бога нейкую расліну. Але ж усё лепшае было ўжо раздадзена. Астаўся адзін асот.

— Можа знойдзеце нешта іншае, — умаляў Яго Юры.

Ды Бог параіў яму:

— Калі хочаш лепшы корм, тады адбяры ў рагатага авёс!

Святы Юры прыдумаў штуку. Не губляючы ні хвіліны, ён паспеў апярэдзіць нячысціка і сеў ля нары, якой чэрці прабіраліся з пекла на гэты свет. Чорт знюхаў пагрозу, спалохаўся, што не данясе назвы расліны да сваёй хаты. І ўсё прападзе! Ён скакаў як на спружынах і гарачліва паўтараў: авёс, авёс, авёс... А тут святы Юры гукнуў: «Ага! Ага!».

Зазлаваўся чорт:

— Цьфу! Забыўся нават, што паўтараў!

— Ты ж гаварыў асот, — хітра падказаў яму Юры.

Чорт стаў паўтараць: асот, асот, асот... ды адправіўся ў сваё пекла.

Юры тым часам злётаў да Бога, які даў яму ва ўладанне авёс і назначыў апекуном коней і хатняй жывёлы. Сёння ўсе каняводы і пастухі ідуць у царкву на Юр'е, а нашы сяляне вараць смачны аўсяны кісель.

** Легенда запісана ў 1872 годзе ў вёсцы Азяты на Кобрыншчыне. Паводле кнігі «Легенды і паданні». Сучасная апрацоўка ГК.*

**Сільвія Грыка,** ПШ у Міхалове

## Рэчка мая

Ёсць такое месца на канцы свету,
Дзе Нарва пушчу трымае.
Адтуль мая сям'я прыйшла,
Тут сонца ўзышло.
На палях чырвоныя макі,
Каля рэчкі гняздуюцца птушкі.
Лугі тут пахучыя, зялёныя
Абапал рэчкі ляжаць.
Лугі цэлыя ў кветках,
Насякомыя тут лятаюць,
Мухі і матылькі.
Адкуль іх столькі?
Нават вярба старая,
Паміж дрэў іншых,
Тут калышацца здаўна.
Яна не адна.
Рэчка далей плыве,
А я тут стаю.
Якая вялікая яна,
Рэчка майго жыцця.

## Польска-беларуская крыжаванка № 18-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 14-2019:**
Бор, ака, крок, век, баян, шафа, клік, лязо, гусцік, чацвер, як, Ялта, планета, раса, крыж. Боб, Кіпр, акт, ял, Ас, кніга, на, ар, куц, кош, свята, Ака, цела, флірт, сваяк, кропка.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі **Іаанна Мусюк, Юстына Бакуменка, Наталля Стакоўская, Тамаш Васілюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Марта Петручук, Оля Кардаш, Тамаш Ваўранюк** з Нарвы, **Лукаш Дзюбанос, Матэвуш Семёнчык, Раксана Спора** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Narew | Art | | Wyspa | | Pan | Ciasto drożdżowe | | Okazja | Fan |
| | | | | | Morze | | | | Szyfr |
| | Ty | | | Przechodzień / Gatunek | | | | | |
| | Niebo | Sukces | | | | | Chór | | |
| | | Cypr | | | | | | | |
| Rzecz | Ach / Korowód | | | | | | | | Węch |
| | | | Parowiec | | Iran | | | | |
| | Oset | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

# ПАДЛЯШСКІЯ СУСТРЭЧЫ Ў ВЕЖЫ

**Дзявятага красавіка г.г. у Камянецкай вежы, якая з'яўляецца філіялам Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, прайшла гістарычна-мастацкая сустрэча «Бельск — Камянец». Была яна прымеркаваная да 10-годдзя супрацоўніцтва Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах з Аб'яднаннем «Тур», якое гуртуе мастакоў і людзей культуры Берасцейшчыны.**

Ад пачатку «Турам» кіруе **Анатоль Туркоў**, камянчанін з нараджэння, разьбяр, жывапісец, асоба адданая культуры роднага краю. Не менш важнай асобай у таварыстве з'яўляецца **Ларыса Быцко**, якой стараннем у 2009 г. на Падляшша трапіла выстаўка твораў народных мастакоў Берасцейшчыны «Вандроўкі па Палессі». Гэта тады на Падляшшы ўпершыню былі паказаны творы такіх выдатных, народных мастакоў, як **Іван Супрынчык** з Цераблі ды **Мікола Тарасюк** са Стойлаў. Першы наведаў Падляшша неаднойчы, апошняга мелі мы шчасце гасціць у Студзіводах у 2010 г., з вялікай персанальнай выставай. Сёння студзіводскі музей мае адзіную ў Польшчы, адкрытую калекцыю твораў абодвух мастакоў.

Найстарэйшым, поўнасцю захаваным помнікам архітэктуры на гістарычным Падляшшы несумненна з'яўляецца вежа — стоўп у Камянцы. Збудаваная была яна паміж 1276 і 1289 гадамі, у час, калі князем уладзімірскім быў Уладзімір Васількавіч, заснавальнік Камянца. Летапіс апісвае яго як набожнага і адукаванага ўладара, які фундаваў шмат храмаў і манастыроў, пісаў іконы і перапісваў кнігі. За сваю развжлівасць і духоўныя дары быў сучаснікамі названы Філосафам.

Гарады Камянец і Бельск-Падляшскі спалучаюць шматвяковыя гістарычна-культурныя сувязі. З Бельска, праз Орлю і Дубічы-Царкоўныя, вядзе дарога, якую да сёння называюць «Камэнэцькім Гостінцём». Сёння гэты гістарычны шлях раздзяляе дзяржаўная мяжа. Як слушна падкрэсліваў **Георгій Мусевіч**, адзін са стваральнікаў школы камянецкай гістарыяграфіі, як Бельск, так і Камянец знаходзяцца на гістарычным Падляшшы. Трэба памятаць, што гэтыя гарады, ужо на самым пачатку сваёй гісторыі, злучыла постаць князя Уладзіміра Васількавіча. Як згадвае летапіс, у 1288 г. князь Уладзімір падараваў храму ў Бельску іконы ды кнігі. Гэта быў важны зародыш для будучыні — Бельск да сёння з'яўляецца галоўным цэнтрам Праваслаўя на Падляшшы.

Абнаўленню бельска-камянецкага гасцінца, у духоўным сэнсе, спрычыняецца супрацоўніцтва Аб'яднання «Тур» з Камянца і Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах. Ужо дзесяць гадоў абодва культурныя цэнтры ажыццяўляюць шмат творчых задум — мастацкіх, музейных, адукацыйных, фальклорных, этнаграфічных. Сярод іх вылучаюцца разьбярскія пленэры на Падляшшы, плён якіх можна агледаць у розных мясцовасцях Падляшша. З 2009 г. узнікла восем праваслаўных крыжоў, аформленых Анатолем Турковым (Студзіводы, Мокрэ, Раманаўка і Крывятычы), часоўня іконы Спаса Нерукатворнага ў Раманаўцы (2013) ды каплічка з Бельскай іконай Багародзіцы ў Студзіводах. У панадворку тутэйшага музея Анатоль Туркоў, **Уладзімір Чыквін** і **Вячаслаў Дароцька** (Кобрын) ды **Валеры Казлоўскі** (Гомель) стварылі цэлы ансамбль драўляных скульптур, з манументальнай, уваходнай брамай. У Дубяжыне Анатоль Туркоў і **Мікалай Скляр** з Гародні стварылі кампазіцыю, прысвечаную бежанству 1915 года ды скульптуры гістарычных постацей: ген. Аляксандра Жаўтухіна і войта Дубяжынскай гміны.

Сярод усіх драўляных рэзьбаў, якія ўзніклі дзякуючы супрацоўніцтву з «Турам», вылучаецца несумненна манумент у дубе, прысвечаны Сойму вялікаму, які адбыўся ў Бельску ў 1564 годзе. Паводле праекта ніжэйпадпісанага, стварыў яго той жа Анатоль Туркоў, народны майстар Рэспублікі Беларусь. Помнік Сойму вялікаму стаў у цэнтры Бельска, побач беларускага ліцэя. Яго ўрачыстае адкрыццё прайшло 21 мая 2018 г., падчас Дзён славянскай культуры і пісьменнасці «Пралог».



■ Удзельнікі сустрэчы Бельск - Камянец перад вежай.

Новай, творчай задумай студзіводскага музея і таварыства «Тур» з'яўляецца «Студзіводская панарама», якую ў дубовым дрэве стварае Анатоль Туркоў. Чатыры работы з панарамы былі паказаны на выстаўцы ў Камянецкай вежы. Гэта кампазіцыі прысвечаныя асобам, звязаным з гісторыяй Студзівод: епіскап **Іона II** і **Васілій Сегеневічы**, **Фелікс Траяноўскі**, праф. **Еміліян Адамюк** ды **Павел** і **Анастасія Кандрацюкі**. Непасрэдна пасля вернісажу выстаўкі, на пятым паверсе Камянецкай вежы, можа ўпершыню за 700-гадовую яе гісторыю, прагучалі літургічныя творы Супрасльскага ірмалагіёна XVI ст. Праспяваў іх **Марцін Абійскі**, які шырэй пра Ірмалагіён расказаў на навуковай канферэнцыі, якая прайшла ў зале



музея «Камянецкая вежа». Насычаную зместам сустрэчу адкрыла **Таццяна Казулька**, кіраўнік музея.

Уводны даклад на канферэнцыі прадставіў праф. **Алег Латышонак** з Універсітэта ў Беластоку, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства. Гаварыў ён пра Падляшша ў межах Галіцка-Уладзімірскага княства з 1270 г. па сярэдзіну XIV ст. Гэта быў вельмі актыўны перыяд грамадскага і матэрыяльнага развіцця нашых зямель. Пра гарадское самакіраванне Камянца, які магдэбургскія правы атрымаў у 1503 г., гаварыў **Аляксандр Доўнар** з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Запрэзентаваў ён, м.інш. шэдэўр старабеларускай каліграфіі — дакумент з 1634 г., выдадзены пісарам камянецкага магістрата **Іванам Кашубай**. Прыгожа аформлены рукапіс сведчыць пра высокую культуру рускага слова ў тагачасным Вялікім Княстве Літоўскім. Навуковец звярнуў увагу, што яшчэ ў XVIII ст. старабеларускую мову ўжывалі ў гарадскіх канцылярыях Магілёва ці Віцебска.

Падчас канферэнцыі, шмат увагі было адведзена выдатным постацям, звязаным з Камянеччынай і Падляшшам. **Аляксандр Ільін** з Палескага ўніверсітэта ў Пінску, рэдактар часопіса «Гістарычная брама» гаварыў пра выдатнага генерала Рускай арміі **Платона Лячыцкага** (1856-1921). Яго бацька, а. **Аляксей Лячыцкі** быў настаяцелем цэркваў у Камянцы і Такарах. У апошнім з прыходаў заснаваў царкоўнапрыхадскую школу, дзе настаўнічаў **Макар Ігнатоўскі**, пазнейшы псаломшчык царквы ў Дубінах. У гэтай падгайнаўскай вёсцы выхаваўся ягоны сын **Усевалад Ігнатоўскі** (1881-1931), першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук. Пра гэтую постаць расказала **Ірына Данілюк** з Раённай бібліятэкі ў Камянцы, якая носіць імя У. Ігнатоўскага.

На іншыя постаці свяшчэннікаў-гісторыкаў звярнуў увагу **Валеры Мароз** з Берасця. Самым вядомым быў а. **Леў Паеўскі** (1850-1919), аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі Камянца і Берасця. Гэта яго стараннямі адбылася рэстаўрацыя Камянецкай вежы ды здабываліся сродкі на пабудову новага храма ў Камянцы. Другім гісторыкам духоўнага стану, звязаным з Камянцом быў а. **Іаан Маркевіч**, які нарадзіўся ў Райску на Бельшчыне ў сям'і настаяцеля тутэйшай царквы а. **Іосіфа Маркевіча**. Ён таксама збіраў матэрыялы па гісторыі Праваслаўя на Камянеччыне і Берасці. У 1882-1893 гадах а. Іаан Маркевіч узначальваў прыход у Камянцы, дзе памёр. На завяршэнне канферэнцыі ўсе яе ўдзельнікі пайшлі на магілу а. Іаана, дзе камянецкі благачынны а. **Сергій Буркоўскі** адслужыў заўпакойную ліцію.

Побач магілы а. Іаана Маркевіча знаходзіцца надмагільны крыж а. **Канстанціна Тарановіча** (1879-1927), сына настаяцеля Міхайлаўскай царквы ў Бельску а. **Аўгусціна Тарановіча**. Гэта а. Канстанцін Тарановіч, пачынаючы з 1910 г., будаваў цяперашнюю Сімяонаўскую царкву ў Камянцы, жамчужыну царкоўнай архітэктуры камянецкага Падляшша. Можам ганарыцца, што стварыў яе ўраджэнец Бельска.

Камянеччыну і Бельшчыну спалучаюць таксама духоўныя сем'і Будзіловічаў і Кастыцэвічаў. Побач царквы ў Дзмітровічах пахаваны а. **Келясцін Будзіловіч** (1836-1890), якога дачка Сафія была матушкай а. **Васілія Кастыцэвіча**. Будучы настаяцель царквы ў Пасынках і бельскі благачынны вучыўся на гістарычна-філалагічным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Яго прафесарам быў **Антон Будзіловіч**, сын а. **Сімяона Будзіловіча**, настаяцеля цэркваў у Такарах і Камянцы. Пра гэтыя сувязі гаварыў на канферэнцыі ніжэйпадпісаны.



■ Работы Анатоля Туркова да студзіводскай панарамы экспанаваліся ў камянецкай вежы; рэльеф, прысвечаны Паўлу і Анастасіі Кондратюкам.

**Лідзія Кулажанка** з выдавецкага аддзела Праваслаўнага брацтва трох віленскіх мучанікаў з Мінска прадставіла кнігу «Записки сельского священника». Яе аўтар, а. **Плакід Янкоўскі** (1810-1872), ураджэнец вёскі Вайская на камянецкім Падляшшы. Душпастыр, літаратар, перакладчык еўрапейскай літаратуры — важная постаць для беларускай, праваслаўнай культуры. Іншыя выданні мінскага брацтва прадставіў на канферэнцыі **Канстанцін Антановіч**. Гэта «Дыяр'юш» св. **Афанасія Брэсцкага** (**Філіповіча**) ды «Святло сярод ночы. Асновы праваслаўнай веры» **Фёдара Палачаніна**. Аўтар апошняй кнігі, складзенай у форме катэхізіса, пражывае ў Докшыцах на Полаччыне. Ён таксама аўтар літаратурных твораў, у тым ліку п'ес, якія глыбока асаджаны ў праваслаўнай духоўнасці.

З цікавым дакладам на канферэнцыі выступіў **Андрэй Асташэня**, які прадставіў вынікі шматгадовых пошукаў старых фатаграфій з Камянеччыны, якія адлюстроўваюць розныя бакі яе грамадскага жыцця, пачынаючы з пачатку XX ст. Агулам было выяўлены і скапіраваных 9700 фатаграфій, з якіх 700 на працягу трох гадоў апублікавалі ў газеце «Навіны Камянеччыны». Гэтыя публікацыі цяпер склалі асобны альбом «Камянеччына на старых фота», які ў гэтым годзе выпусціла мінскае выдавецтва «Кнігазбор».

Мерапрыемства «Бельск — Камянец» яшчэ раз паказала роднасць зямель, для якіх гэтыя гарады з'яўляюцца цэнтрамі. У гэтай тэрыторыі вялікі патэнцыял для даследаў, асабліва па царкоўных тэмах. Таму варта прадаўжаць ідэю такіх гістарычна-мастацкіх сустрэч.

Тэкст і фота
**Дарафея ФІОНІКА**



■ Касцёл Васеркірхе (на першым плане); за ім вежы касцёла Гросмюнстэр

# Пад Альпамі і навокал

Нядаўна згарэла частка знакавага парыжскага сабора Нотр-Дам. Няма нічога вечнага ў матэрыяльным плане, магчыма, што, згодна з тэалагічнымі меркаваннямі, вечныя толькі душы. Усялякія храмы жывуць розна насычаным жыццём. Некаторыя, прысуджаныя да небыцця, уваскрасаюць, быццам легендарны Фенікс. Так мае быць і з парыжскай кафедрай. Так мае быць і з супрасльскім Благавешчанскім храмам. Устала з папялішчаў царква на Грабарцы. Калі з Беластока ўязджаць у Варшаву, вітае падарожных велічны касцёл св. Фларыяна, узведзены звыш ста гадоў таму, у апошнюю вайну заменены артылерыйскім абстрэлам у кучу друзу, а ў пасляваенныя гады карпатліва збудаваны нанава.

Некаторыя храмы быццам жанчыны, упрыгожваюць сваё аблічча нават у цалкам прыстойным даўгавеччы. Прыкладам гэтаму згаданы ўжо сабор Нотр-Дам. Акурат у ходзе пажару абваліўся ягоны шпіль, узведзены ў XIX стагоддзі, калі фундаменты былі закладзены тысячу гадоў раней. Не вынікае гэта з нейкай маруднасці, але з чалавечага творчага запалу, калі знаходзіць ён натхненне для ўзбагачэння дэкору даўгавечнай будоўлі.

Згадваў я раней пра цюрыхскі храм Фраўмюнстэр. Ягоныя падваліны былі закладзены ў палове IX стагоддзя. Паводле легенды дзве праўнучкі імператара Карла Вялікага займелі жаданне правесці сваё жыццё ў адасабленні. Хацелі яны падацца ў адну каплічку, але Бог паслаў ім аленя, у якога рагах было нешта накштальт свяцільні. Алень паказаў ім пустое месца, дзе яны і заснавалі манастыр. Гэтая легенда з-за трыдзевяці зямель вельмі нагадвае нашы тутэйшыя храмазасноўныя легенды — ці то пра згаданы супрасльскі храм, дзе манахам месца пабудовы манастыра вызначыў плаў крыжа, ці пра царкву ў Райску, дзе месца вызначылі валы, якія цягнулі будаўнічыя матэрыялы.

І вось жа яшчэ цалкам нядаўна, па векавым меркам, той раннесярэднявечны манастыр узбагаціўся новым дэкорам. У 1967 годзе ягоны пастар Пэтэр Фогельзангер запрасіў у свой храм Марка Шагала, які толькі што закончыў вітражы ў іерусалімскім медыцынскім цэнтры Хадаса-Эйн-Керэм. Шагал, якому ў той час было 80 гадоў, прыняў запрашэнне і цягам чарговых трох гадоў выканаў пяць вітражоў у цюрыхскім гістарычным касцёле. Але гэта не ўсё: у 1978 годзе Марк Шагал, якому тады пераваліла за дзевяноста гадоў, выканаў у тым жа касцёле чарговы вітраж. Магчыма, што пастар Фогельзангер рашыў крышку развесяліць Фраўмюнстэр вітражамі Марка Шагала, ураджэнца горада Лёзна, што на Віцебшчыне... Тамашнія вітражы ўраджэнца Беларусі прысвечаны біблейскім персанажам: Хрысту, прароку Майсею, цару Давіду, патрыярху Якаву і прароку Ілы. Ёсць там таксама вітражы швейцарскага мастака Аўгуста Джакамеці, таксама на біблейскія сюжэты. Можна сказаць, што пастар Фогельзангер аздобіў усё ж такі свой пратэстанцкі храм іконамі пісанымі на іншым чым драўніна матэрыяле.

Лацінская пагаворка *Vita brevis ars longa* нясе тую банальную праўду, што жыццё кароткае, а мастацтва даўгавечнае. Твор мастацтва можна ў выпадку патрэбы зрэканструяваць; пра жыццё гэтага сказаць нельга. Пра чалавечыя затраты Сталін бадай некалі сказаў, што гэта толькі статыстыка... Вось, зараз пасля парыжскага пажару, у Шры-Ланцы ў выніку велікодных тэрактаў загінула каля трохсот чалавек — гасцей з Захаду ў гасцініцах або вернікаў прынесенага з заходняга напрамку хрысціянства ў касцёлах...

Супраць тэрактаў, скіраваных ці то на людзей, ці то на матэрыяльныя каштоўнасці рознай мастацкай ці гістарычнай вартасці прымаюцца розныя меры. У самых знакавых храмах Цюрыха гэта банальная забарона здымкаў інтэр'ера. Але магчыма таксама, што гэта свайго роду падмацоўванне цікавасці наведвальнікаў. Бо ў інтэр'ерах адкрыты падваліны тых храмаў, якія стаялі там раней; гэта такое падарожжа ў самую даўнюю тамашнюю гісторыю. Як і паўсюдна на Захадзе, набажэнствы там даволі рэдкія. Вось пасля нядзельнага набажэнства з касцёла Гросмюнстэр выйшла толькі жменька пажылых дам. Дарэчы, пратэстанцкае набажэнства даволі поснае; яно, у прынцыпе, зведзена тамашнімі рэфарматарамі толькі да пропаведзі. Інтэр'ер пратэстанцкага касцёла таксама крайне посны. Для прыкладу, у цюрыхскім касцёле святога Пятра на самым ганаровым месцы красуецца толькі дзясяты сказ чацвёртага раздзела Евангелля ад Матфея: „Госпаду Богу твайму пакланяйся, і Яму аднаму служы". Ён, па сутнасці, нясе вельмі падобны змест, што і першая запаведзь Майсея; ён, у агульнасці, нясе падобны змест, што і першая сура Карана... Мабыць, рэлігійныя заўзятары пра гэта і не ведаюць...



■ Помнік Хансу Вальдману

Была тут прыведзена легенда пра заснаванне храма Фраўмюнстэр. Не менш цікавая і легенда пра заснаванне Гросмюнстэра. У час панавання рымскага імператара Дыяклетыяна адбывалася жорсткае ганенне хрысціян. Можна нават сказаць, што тады прымяняліся супраць іх таксама тэракты, толькі тагачаснымі сродкамі. Шматлікія ахвяры тадышняга праследу былі абвешчаны мучанікамі. Вікіпедыя: „Согласно преданию, святые Феликс и Регула, брат и сестра, а также их слуга Экзюперантий, входили в число мучеников, пострадавших вместе с воинами-христианами Фиванского легиона. Во время казни воинам им удалось бежать мимо Гларуса в район Цюриха. Однако там они были схвачены, преданы суду и обезглавлены. Чудесным образом они встали, взяли свои головы и, поднявшись в гору на сорок шагов, сотворили молитву и отошли ко Господу. Там впоследствии был воздвигнут храм Гросмюнстер, а на месте их казни был построен храм Вассеркирхе. Святые считаются небесными покровителями Цюриха". Легенда крышку нагадвае жыціе Меркурыя Смаленскага: „Тогда, взяв свою главу в руки, пришёл он к городским воротам, дабы поведать бывшее...". Магчыма, што былі і іншыя такія мучанікі...



■ Помнік Іагану Генрыху Песталоцці

Галоўнай каштоўнасцю згаданага раней Нотр-Дама мае быць цярновы вянок Ісуса Хрыста. Паводле легенды, калючку з Ісусавага вянка насіў з сабою як талісман адзін з найбольш праслаўленых цюрыхскіх граданачальнікаў Ханс Вальдман. Вікіпедыя: „В 1483 г. Х. Вальдман, как представитель богатой верхушки Конфедерации, был избран бургомистром в Цюрихе, ввёл много полезных реформ: ограничил привилегии духовенства, положил предел завещаниям в пользу монастырей и др. С его именем связана история самого большого в Цюрихе арсенала построенного во второй половине XV века. После победоносных для Швейцарии Бургундских войн (1447-1477 гг.) в городе оказалось так много захваченного оружия, что бургомистр Х. Вальдман поручил построить для него специальный склад. Влияние его на сеймах и могущество в Цюрихе быстро возрастали и создали ему много личных врагов, которые завидовали его громадным богатствам, приобретенным путем подарков и пожалований дворами Австрии, Франции, Савойи и др., а налоги и полицейские распоряжения раздражали народ. Свергнутый крестьянским восстанием, Х. Вальдман был предан суду, обвинен в стремлении к тирании, финансовой коррупции, внешних связях и содомии и казнён. Обезглавлен в Цюрихе 6 апреля 1489 г." Аднак у 1937 годзе ў цэнтры Цюрыха яму быў устаноўлены помнік, бо ініцыятары гэтага мемарыяла палічылі, што іх кумір стаў ахвярай юрыдычнага забойства...

Побач Гросмюнстэра невялікая табліца са згадкай, што ў Цюрыху знайшлі прытулак вызваленыя з галернікаў венгерскія пратэстанты. Менавіта ў XVII стагоддзі ў Еўропе адбываліся рэлігійныя войны, паміж хрысціянскімі канфесіямі, у тым ліку і ў Венгрыі, дзе на той час было шмат пратэстантаў. Шмат з іх каталіцкія аўстрыйскія ўлады адправілі на галеры ў Міжземнае мора. Вызваліў іх найбольш слаўны галандскі адмірал дэ Ройтэр [de Ruyter]. Вікіпедыя: «Пасланы ў 1675 годзе ў Міжземнае мора на дапамогу іспанцам, Ройтэр вызваліў з палону 30 венгерскіх рэфармацкіх святароў, якія пакутавалі на неапалітанскіх галерах. (...) 29 красавіка [1676 года], Ройтэр ад атрыманых [у бітве з французамі] раненняў памёр каля Сіракузаў. Забальзамаванае цела Ройтэра на фрэгаце „Concordia" даставілі ў Галандыю. (...) Кароль Францыі Людовік XIV загадаў па высакароднасці даць свабодны пропуск „Concordia" ў Галандыю і салютаваць ёй у кожным французскім порце, міма якога яна праходзіла. Пахаванне Ройтэра адбылося 18 сакавіка 1677 года ў Амстэрдаме. Яго грабніцу ўпрыгожвае надпіс „Ён зззяе незаплямленым гонарам"». А на мемарыяльнай таблічцы ў Цюрыху ёсць толькі зноска на цытату: дзявяты сказ чацвёртага раздзела Другога паслання карынфянам; сам змест яго абнадзейваючы: „Нас пераследуюць, але мы не пакінутыя".

У Дэбрэцэне, што на ўсходзе Венгрыі, у якім палову насельніцтва складаюць кальвіністы, стаіць помнік адміралу дэ Ройтэру. У1991 годзе папа Ян Павел II, у час свайго наведвання Венгрыі, усклаў пад тым помнікам вянок, як своеасаблівы знак каяння за ўчыненыя Касцёлам праследаванні. Папа тады сказаў, што „такую падзею немагчыма было ўявіць у ранейшы час; калі б тады папа наведаў Венгрыю, ён не падаўся б у Дэбрэцэн, а ягоныя жыхары не жадалі б ягонай прысутнасці".

Маятнікі талерантнасці і нянавісці, быццам нябесныя свяцілы, карпатліва акružаюць зямны шар, у тым ліку і Альпы. Як у Свяшчэнным Пісанні, у трэцім раздзеле Кнігі Прапаведніка: „Wszystko ma swój czas, i jest wyznaczona godzina na wszystkie sprawy pod niebem: jest czas rodzenia i czas umierania, czas sadzenia i czas wyrywania tego, co zasadzono, czas zabijania i czas leczenia, czas burzenia i czas budowania, czas płaczu i czas śmiechu, czas zawodzenia i czas pląsów, czas rzucania kamieni i czas ich zbierania, czas pieszczot cielesnych i czas wstrzymywania się od nich, czas szukania i czas tracenia, czas zachowania i czas wyrzucania, czas rozdzierania i czas zszywania, czas milczenia i czas mówienia, czas miłowania i czas nienawiści, czas wojny i czas pokoju". І ўсё гэта кружыць вакол нас жыццёвым вадаваротам; *pantha rei*...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# У войску і на рабоце

## Размова са **Сцяпанам КАЗЛОЎСКІМ**, 1943 года нараджэння з Міклашоў.


Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

**— Дзе Вы служылі ў войску і як было?**

— Вясною 1963 года ўзялі мяне ў Галеняў, у Шчэцінскім, на аэрадром. Быў на абучэнні тэлефаністаў, а пасля прысягі трапіў на тэлефонную станцыю, падключаў кіраванне палётамі. Станцыя была мабільная, называлася „Красуля”, туды ішлі ўсе лініі сувязі.

**— Ці былі Вы ў самалёце? Ці сустракалі савецкае войска?**

— Быў; дазвалялі механікі і пілоты. Былі тады „Мігі” і „Ілы”. Наша часць, некалькі эскадраў, была сем кіламетраў ад горада. Мелі мы пропускі і два веласіпеды, на якіх ездзілі да аварый на лініях. Каля Каменя-Паморскага, у Снядове, быў запасны аэрадром. Ужо пазней пачалі падаўжаць узлётныя палосы і ўводзіць большыя самалёты. Наш і савецкі аэрадромы былі злучаны; рускія базіраваліся на запасным аэрадроме.

Мяне назначылі шэфам па абмундзіроўцы. Нашым салдатам давалі на дзень па 10 папяросаў, а ў рускіх давалі 20 штук ды стаяў мяшок з махоркай — бяры колькі хочаш. Мы, праваслаўныя, хадзілі да рускіх, а такія „цвёрдыя” палякі-католікі прасілі мяне, каб прынёс ім тую махорку. Прыносіў, а яны пыталі, як я з імі дамаўляюся.

**— Ці былі з Вамі землякі? Размаўлялі па-свойму?**

— Крыху было: Ваня Шчыгал з Тапчыкал, былі з Палічнай, Елянкі. Яны часам прыходзілі да мяне на тэлестанцыю паразмаўляць, часам прасілі, каб пазваніць ім дадому. Тады ў людзей не было тэлефонаў, то я злучаў іх з солтысам; прасілі, каб ім прыслалі грошы.

**— Я са свайго вопыту ведаю, што ў войску добра, калі ёсць халтура, „фуха”. Вы яе мелі?**

— Быў я камандзірам тэлефоннай каманды, то калі аб'яўлялі трывогу, то заходзіў на станцыю, а дзяжурныя па 70-80 кіламетраў хадзілі. Я ў войску меў вельмі добра, лепш чым дома. Бо харчаванне ў авіяцыі было пяць разоў у суткі.

**— А водпускі? Бралі Вас у запас?**

— У водпусках быў тры разы, разам сто дзён. У запас не бралі.

**— Пасля войска?**

— Хацеў я атрымаць працу на пошце, то мне прапанавалі ў Элку; далёка і адмовіўся. І пайшоў у цагельню Антанова, бо адтуль адышоў у войска. Летам працавалі ў цагельні, а зімою — я, Валодзя Шыманскі, Толік Пятроўскі — капалі гліну на глінянках у Орлі для кафлярні. Пазней з Васькам Лемешам, аднавяскоўцам, пайшоў з сельскагаспадарчага гуртка на васьмімесячныя курсы трактарыстаў. Кожны дзень ездзілі ў бельскі ПОМ, заняткі доўжыліся па восем гадзін. У Міклашах меў быць свой сельгасгурток, але найперш патрабавалі трактарыстаў — мела быць два трактары. Але калі мы закончылі курсы, то Міклашы не захацелі двух трактароў, сказалі, што адзін хопіць. То тыя трактары аддалі Орлі і мы сталі на працу ў Орлю. Там былі чэхаславацкія „Зэтары”, база была пры цяперашняй вуліцы Сянкевіча, дзе раней быў Гмінны машынны цэнтр, а кавалі падкоўвалі коней. Пасля зрабілі Міжгуртковую машынную базу, філію ПОМу. Калі мы пайшлі ў новазаснаваны сельгасгурток, то ў тым месцы, і то доўга, быў насенны магазін.

Пасля курсаў трэба было яшчэ адпрацаваць стаж, месяц часу з трактарыстам у полі. Я быў каля Федзі Палавюка з Антанова, а Васька працаваў каля Роберта Панка са Шчытоў. Далі вадзіцельскія правы і трактары. Калісь можна было ездзіць на палявую карту толькі па полі. Пасля нейкага часу перайшоў я з эскаэру ў Раён публічных дарог у Орлі, ездзіў дарожным катком і т.п.

У 1991 годзе выйшаў на рэнту па нездароўі, а ў 60 гадоў — на пенсію.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

прыватныя курсы Андрэя Саўчанкі

ARTFACTOR

private lessons of Andrei Sauchanka

## https://actorart.jimdo.com

Зыходзячы з апошніх падзей на Украіне, дзе прэзідэнтам стаў акцёр, верагодна, нехта ўбачыць у дадзенай прафесіі магчымасць стаць першай асобай у сваёй дзяржаве. Тыя, хто хоча быць прэзідэнтам, не могуць авалодаць прэзідэнцкім майстэрствам загадзя — усё пра яго можна даведацца толькі тады, калі знаходзішся на дадзенай пасадзе. У той жа час акцёрскім рамяством можа авалодаць кожны, хто праявіць належнае жаданне і імкненне. Вучаць гэтай прафесіі амаль ад прадшколля, калі малыя дзеці ставяць нейкія сцэнкі ці дэкламуюць вершыкі. Потым можна ўдзельнічаць у школьным тэатральным гуртку, затым вучыцца ў адпаведнай навучальнай установе на акцёра. А можна папросту прайсці курсы акцёрскага майстэрства, якія вядуць закаханыя ў сцэну людзі. Такія, напрыклад, як Андрэй Саўчанка. Каб пазнаёміцца з яго магчымасцямі ў акцёрскім навучанні, трэба зазірнуць на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://actorart.jimdo.com.**

Галоўная старонка сайта выглядае зусім „па-мастацку” — дрэва з вялікай кронай, куды схаваў галаву чалавек, які стаіць побач. „Прыватныя курсы Андрэя Саўчанкі Artfactor”, — распавядаецца пад малюнкам па-беларуску і па-англійску. „На гэтым сайце вы знойдзеце інфармацыю аб прыватных курсах, прысвечаных акцёрскай прафесіі, а таксама праграмы, звязаныя з ёй, але адаптаваныя для людзей, якія не збіраюцца непасрэдна займацца акцёрствам”, — распавядаецца далей у невялікай прэзентацыі сайта. Згодна размешчанай там інфармацыі, „артфактар” існуе ўнутры кожнага з нас. „Ён правакуе і патрабуе ад нас творчасці ў розных яе праявах, пры пэўных умовах, пры адпаведных настройках ён можа раскрыць нас, здзівіць, узбадзёрыць і ўзмацніць, з яго дапамогай мы здольныя ажыццяўляць неверагодныя, нечаканыя, натхняльныя і захапляльныя рэчы”, — сцвярджае праз свае віртуальнае прадстаўніцтва Саўчанка, і між волі мусіш пагадзіцца з яго словамі, узгадваючы новага ўкраінскага прэзідэнта.

Дарэчы, курсы Саўчанкі арыентаваны і на тых, каго называюць публічнымі асобамі, а гэта, у прыватнасці, палітыкі. Паводле яго, навучанне дапамога бізнесоўцам, кіраўнікам, менеджарам, публічным асобам і іншым людзям пазбавіцца ад заціскаў і комплексаў, эфектыўна самапрэзентавацца, пашырыць свае здольнасці наконт камунікатыўнасці, а таксама прадуктыўна рыхтавацца, праводзіць публічныя выступы і пакідаць добрае ўражанне ў партнёраў пасля сустрэчы.

Але не толькі на дарослых арыентаваны прапановы акцёра, рэжысёра і выкладчыка Акадэміі мастацтваў, якім з'яўляецца Саўчанка. Навучыць акцёрскаму майстэрству ён бярэцца і дзяцей. Пра тое, як гэта адбываецца, можна даведацца, калі зазірнуць у рубрыку „Складанка”. Тэатр „Арт-вандроўка” прапануе шэраг сустрэч, кожная з якіх з'яўляецца маленькай вандроўкай па розных мясцінах і часах, з якімі гэты тэатр звязаны. „Усё адбываецца інтэрактыўна. Сталкер (выкладчык) мякка зацікаўлівае і ўводзіць у фармат гульні, дзе ўсе могуць быць творцамі — акцёрамі, рэжысёрамі, сцэнографамі ці іншымі стваральнікамі тэатра, дзе ўсе могуць быць цікавымі і вельмі важна, што кожны дзіцёнак думае, што ўяўляе, што прапануе і спрабуе”, — распавядаецца ў пададзеным тэксце. Там жа адзначаецца, што заняткі праходзяць на беларускай мове.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



## 200 гадоў з дня нараджэння

# Станіслава Манюшкі

Кампазітар, дырыжор, педагог, класік беларускай і польскай вакальнай лірыкі Станіслаў Манюшка нарадзіўся 5 траўня 1819 г. у фальварку Убель каля Смілавіч (цяпер Чэрвеньскі раён Мінскай вобласці). Пачатковую музычную адукацыю атрымаў у кампазітара Дамініка Стафановіча ў Мінску. Калі ў 1827 г. сям'я будучага кампазітара перасялілася ў Варшаву, ён пачаў навучацца музыцы. Праз тры гады сям'я перабралася ў Мінск, дзе Станіслаў Манюшка працягваў музычную адукацыю. Навучаўся ў Мінскай губернскай гімназіі. У 1837 годзе выехаў у Берлін, дзе працягваў удасканальвацца як музыкант.

З 1840 года Манюшка пасяліўся ў Вільні, там працаваў як арганіст, кампазітар, педагог і арганізатар музычнага жыцця горада. У яго браў урокі музыкі будучы мастак Вікенці Сляндзінскі. У 1858 годзе Станіслаў Манюшка зноў перасяліўся ў Варшаву, у 1858-1872 гг. працаваў дырыжорам і дырэктарам опернага тэатра, прафесарам Музычнага інстытута ў Варшаве. У творчасці шырока выкарыстоўваў беларускі фальклор.

Папулярнасць кампазітар атрымаў у 1848 г., дзякуючы оперы „Галька”. Яшчэ адна яго шырока вядомая опера „Страшны двор” была напісана ў 1865 г. Усяго Манюшка стварыў 20 опер і аперэт, тры балеты, пяць месаў, два рэквіемы і болей за трыста песень, у тым ліку і „Паходную песню ліцвінаў” на словы паэта Уладзіслава Сыракомлі. Станіслаў Манюшка напісаў музыку да „Сялянкі” Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і прысутнічае ва ўсіх беларускіх даследаваннях, прысвечаных літаратуры, тэатру і музыцы сярэдзіны XIX стагоддзя. Шырокай вядомасці „Сялянка” яму, аднак, не прынесла, музыка да яе захавалася толькі часткова.

Кампазітар пастаянна падтрымліваў сувязі з беларускімі музыкантамі, пісаў пра іх, спрыяў выданню іх твораў (дасылаў творы Фларыяна Міладоўскага Ферэнцу Лісту), памагаў атрымаць музычную адукацыю, наладжваў канцэрты, дасылаў у Мінск Стафановічу і Міладоўскаму свае творы. Стварэнне першых вадэвіляў, музычных камедый і камічных опер звязана з Беларуссю. У 1834 годзе мінскімі аматарамі пастаўлены „Канторскія служачыя”, у 1841 годзе ў Гродне і ў 1843 у Мінску — „Латарэя”. На лібрэта Дуніна-Марцінкевіча напісаны „Рэкруцкі набор”, „Спаборніцтва музыкаў”, „Чарадзейная вада”. „Сялянка”, дзякуючы выкарыстанню ў лібрэта беларускай мовы і апоры на беларускі музычны фальклор, мае вялікае значэнне для беларускай музычнай культуры.

Творам Станіслава Манюшкі ўласцівы яскравая меладычнасць, лірызм, даступнасць музычнай мовы, операм і аперэтам — майстэрства стварэння індывідуальных характарыстык і будовы масавых, ансамблевых і сольных сцэн. Вытокі яго музычнай мовы — у польскім і беларускім фальклоры (многія з яго арыгінальных мелодый лічацца народнымі).

Памёр Станіслаў Манюшка 4 чэрвеня 1872 г. у Варшаве ўсяго ў 53 гады. Пахаваны на могілках Павонзкі, у 1908 г. перапахаваны за касцёлам св. Караля Барамея. У Мінску 3 верасня 2016 г. у цэнтры горада адкрыты помнік у гонар Манюшкі і Дуніна-Марцінкевіча. Ёсць помнік Манюшкі ў Вільні. 2019 год Сенат Польшчы абвясціў годам Станіслава Манюшкі, з 5 студзеня Цэнтральнаму чыгуначнаму вакзалу ў Варшаве прысвоена імя кампазітара. Дом Манюшкі ў Мінску (цяперашні яго адрас вуліца Энгельса, 3) уключаны ў шэраг тэматычных экскурсій. На доме, а таксама будынку былой Мінскай гімназіі ўсталяваны мемарыяльныя шыльды.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

3 MAJA (św. Hawryiła)
TOPILEC
gm. Turośń Kościelna
15.00 Obrzędy wołoczebne, korowody, śpiewanie ohulek, tradycyjne tańce

4 MAJA
KOŻYNO, gm. Bielsk Podlaski – KOŹLIKI – GORODCZYNO – LACHY, gm. Narew
14.00 Korowody, śpiewanie ohulek, tradycyjne tańce

5 MAJA (Prowody)
MIEDWIEŻYKI – ROGACZE – LEWOSZE, gm. Milejczyce
14.00 Korowody, obrzędy weselne, śpiewanie ohulek, tradycyjne tańce

ТАМ ПО МАЈОВЎОЈ РОСІЕ
XVI ПУДЛ'АШСКО ПОЛ'ЕСКІ СУСТРЕЧЫ В ТРАДЫЦЈІ

6 MAJA (św. Juryja)
DASZE, gm. Kleszczele
14.00 Obchód zasiewów żyta oraz korowody i tradycyjne tańce we wsi
KOSZKI, gm. Orla
19.00 Potańcówka na mostku

7 MAJA
GREGOROWCE, gm. Orla
16.00 śpiewanie ohulek, korowody i tradycyjne tańce we wsi

ORGANIZATOR:
Stowarzyszenie Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach fb.com/studziwody
WSPÓŁORGANIZATORZY:

WYKONAWCY:
ŁAD (Sankt-Petersburg)
WARHAN (Połock)
TEREBIANOCZKI (Terebień)
CHOCISŁAWIANIE I TABOŁA (Chocisław)
ŻEMERWA (Studziwody)

I TAM ŻYWUĆ LUDZI
BIAŁORUSKIE FESTYNY - 11.EDYCJA 2019
PRZYBUDKI
ПРЫБУДКІ
12 V 2019
W PROGRAMIE:
ANIMATO (Narew)
NA SZCZASTIA (Dubicze Cerkiewne)
METRO (Hajnówka)
DAWID SZYMCZUK BAND (Hajnówka)
ART PRONAR (Narew)
Беларускія Фэсты- 11. эдыцыя 2019
І ТАМ ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ

# Дэмаграфія Сямятыцкай гміны

У Сямятыцкай гміне ў 46 сёлах пражывае 6 180 чалавек. Гміна займае плошчу ў 227 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насельніцтва 27 асоб на квадратны кіламетр, на 100 мужчын прыпадае 98 жанчын. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын у тры з паловай разоў больш чымсьці мужчын (жанчыны жывуць даўжэй).

Найбольшыя вёскі па колькасці жыхароў: Чартаеў — налічвае 710 чалавек, Сямятычы-Станцыя і Слохі-Аннапольскія — абедзве па 320, Бацікі-Бліжэйшыя — 290, Анусін — 233, Бацікі-Сярэднія — 231, Баратынец-Рускі — 228, Рогаўка — 227, Раманаўка — 224, Толвін — 193, Каянка — 185, Крупіцы — 163, Турна-Вялікая — 154 і Агароднікі — 150.

Да сярэдніх вёсак належаць Клюкова і Цацэлі — абедзве маюць па 149 жыхароў, Бацікі-Бліжэйшыя — 147, Вулька-Надбужная — 123, Верцэнь-Вялікі — 110, Клапоты-Патры — 105, Сківы-Вялікія — 104, Сківы-Малыя — 103, Клапоты-Станіславы — 102, Клапоты-Буйны — 100, Кулыгі — 98, Вырамейкі — 96, Шэршані — 95, Клекатова — 88, Баратынец-Ляцкі — 87, Клапоты-Банькі — 84, Кажанёўка-Вялікая — 77, Мачыдлы — 75 і Залесе — 62 жыхары.

Найменшыя пасяленні ў гміне: Вулька-Бішэўская — толькі 13 жыхароў, Красэвіцы-Чарэпы — 15 ды Ляскоўшчына — 30. Адышлі ў нябыт вёсачкі Галасоўка, Грыцькі і Кадлуб.

Зараз найстарэйшай асобай у горадзе і гміне з'яўляецца Галена Федарук — 100-гадовая жыхарка Сямятыч. **(яц)**

# Адгаданка

**1.** фігура падобная да чалавека для адпуджвання птушак у садзе або агародзе, **2.** цюркская дзяржава, **3.** спартыўны снарад штангіста, **4.** дзяржава з Конакры, **5.** дзяржава з Осла, **6.** ежа з разбітых і запечаных яек, **7.** сталіца Германіі, **8.** сталіца Швейцарыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |
| | | 1 | 2 | | | 3 | | |
| | | 4 | | | 5 | 6 | | |
| | | | | | | | | 7 |
| | | | 8 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Вясна, нос, песня, бусел, крапіва, капітал, „Аіда", гваздзіка.

Рашэнне: **Сноп да снапа і будзе капа**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 05.05 — 11.05

**(22.03. — 20.04.)** Адчуеш, што да шчасця як рукой падаць, а справы ідуць да пазітыўнага фіналу. 5-9.05. твае дзеянні будуць адважныя і не пашкадуеш. Але 5-8.05. асцерагайся ад непатрэбных выдаткаў і лішніх абяцанняў. 5-9.05. магчымы расчараванні і кепскаваты настрой. 7-11.05. развеюцца твае сумневы наконт шлюбу. 5 мая можна знайсці працу. Да 14 мая спрыяе табе Венера.

**(21.04. — 21.05.)** Добры настрой і вера ў сябе. У маі без цяжкасцей дасягнеш кожную мэту. Многа сілы і аптымізму. Не павучай блізкіх. 5-9.05. рабі парадкі; зможаш пазбыцца нявыгадных абавязацельстваў. 7-9.05. разгорнеш крылы і пакажаш што зможаш. Але 7-11.05. вельмі асцерагайся зладзеяў, бо магчымыя немалыя страты.

**(22.05. — 22.06.)** Наладжванне рамантычных адносін. На працы рэалізуй амбітныя намеры. Асцярожна з фінансамі. Але 5-9.05. можаш пазмагацца за сваю пазіцыю і ўплывы з іншай асобай, якая кепска ўплывае на адносіны на рабоце.

**(23.06. — 23.07.)** Карыстайся файнымі прапановамі і лаві кожную сітуацыю. Спадзявайся радасных навін ад сяброў. 5-6.05. вялікае мастацкае натхненне. Упрыгожвай дом і атачэнне. Не шукай любоўных прыгод, бо адносіны, наладжаны 7-11.05. могуць уцячы з-пад кантролю. 5-9.05. можа пацярпець нават твая рэпутацыя! 5-8.05. не задзірай са старэйшымі ў сям'і. Добры час на планаванне кар'еры, але не на рызыкоўныя дзеянні.

**(24.07. — 23.08.)** Паявяцца новыя магчымасці, але патрэбныя будуць хуткія рашэнні. Не бойся рызыкі! 5-8.05. можаш адчуць, што перастаюць клапаціцца табой блізкія. 11.05. не выкарыстоўвай сваёй пазіцыі і ўлады ды сваіх уплываў. Будзе мяшаць табе старое і добра вядомае. 5-6.05. шчыра паразмаўляй. 5-9.05., калі маеш з кімсьці спрэчку, лепш з ім не сустракайся. 7-9.05. змабілізуйся, каб пакіраваць сваёй кар'ерай. 5-9.05. лепш пільнуй сваіх грошай і не выдавай іх. Прыслухоўвайся да арганізму.

**(24.08. — 23.09.)** 5-9.05. магчымае замяшанне дома і канфлікты на працы. 7-9.05. зможаш адкрыць, што найбольш для цябе выгаднае і спатрэбіцца ў будучыні. Шанцы рэалізаваць амбітныя планы, але будзе табе цяжка рашаць рацыянальна. Хутчэй здайся на інтуіцыю. Слабыя эмоцыі ў пары 5-9.05. 7-11.05. штосьці, што было марай, можа нечакана здзейсніцца (напрыклад, купля зямлі). 5-6.05. ініцыяванне новых праектаў і творчыя задумы. Грошай павінна хапіць, але іх не раздавай. Здароўе някепскае, можа толькі крыху нерваў.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш паспяховы і сарганізаваны. Возьмеш у рукі дом і прафесійныя справы. Але 7-11.05. згубіць цябе могуць самаўпэўненасць і пыхлівасць. У пачуццях настаў свой радар — блізка хтосьці варты зацікаўлення! Многа мілых хвілін. 5-8.05. знайдзі час для сяброў, хаця можа не быць лёгка. У фірме зробіш больш, чым намерваўся. Кончацца справы, якія цябе тармазілі; робіш непатрэбна некаторыя рэчы па два разы? 7-11.05. зайграй абавязкова на біржы, у лато (вельмі добрая ў выйгрышах цэлая першая палова мая).

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш энергічны і энтузіястычны. Толькі не пераборшчвай з эйфарыяй і не бярыся за не сваё. 5-9.05. не пачні канфлікту, у якім не будзе пераможцаў. Маеш шанцы адцяцца ад старых праблем. Будзе табою цікавіцца іншы пол. У пачуццях прызнайся да памылкі. Прафесійныя справы будуць цяжкія, складаныя і стамляльныя. На ўсякі выпадак падрыхтуй план. Змінімалізуеш рызыку страт. Пакінь кепскія звычкі.

**(23.11. — 22.12.)** 7-11.05. вялікае шчасце да грошай; абавязкова зайграй у латарэю! 5-9.05. можаш нервавацца з-за абы чаго. Усе справы, за якія возьмешся, кончацца ўдала. Будзеш рабіць тое, што цябе цешыць. Але 5-9.05. можаш папштыкацца з партнёрам. А раман наладжаны цяпер можа цябе знудзіць. Не бяры крэдытаў. Дадавай у ежу прыправы — куркуму, імбір, карыцу.

**(23.12. — 20.01.)** На раздрапвай крыўд 5-9.05., бо папсуеш сабе настрой. Спадзявайся большых патрабаванняў і абавязкаў. Многа спраў будзе залежаць ад цябе. 7-11.05. гарачы раман. На працы добрая паласа, будзеш смелы і творчы; 7-9.05. магчымыя паездкі. Шыкуецца выдатная форма, але не адмаўляйся ад візітаў у лекараў.

**(21.01. — 19.02.)** З пасіяй будзеш рабіць тое, што любіш. Выкарыстаеш кожны шанц, а поспех прыйдзе мімаходам. Адменіцца твой погляд на кар'еру Зразумееш чым хочаш займацца. 8-12.05. можаш падумаць пра павелічэнне сям'і. Народжаным у III дэкадзе рыхтуецца гарачае рандэву. 7-9.05. трэба будзе камусьці дапамагчы. 11.05. пільнуй дакументаў.

**(20.02. — 21.03.)** 7-11.05. вялікая інтуіцыя, асабліва ў інтарэсах. Бярыся за цяжкія заданні — акажуцца вельмі простымі. Будзеш спяшацца, не абяцай хутка нічога. Магчымы крызіс у пары, 5-9.05. справы могуць пайсці рубам. Але зможаш пазамыкаць незавершанае, з чым мерыўся ты даўно альбо трэба ўрэшце купіць той новы камп'ютар ці зрабіць рамонт. 7-11.05. можаш пашчыльніць сувязі, высветліць непаразуменні, страчаны давер. 7-9.05. прыспешыцца бег думак, асацыяцыі (асабліва ў вучняў), інвестуй у мастацтва.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Сіцылія – краіна кактусаў і здагадак (ч.3)



Вясна на Сіцыліі пачынаецца ўжо ў лютым, а момант, калі зацвітаюць міндальныя дрэвы, лічаць сімвалічным яе пачаткам. Нас прывіталі какосавыя пальмы, аблітыя, быццам мёдам, жоўта-аранжавай квеценню.Сонечны колер вясны папаўняў ружова-фіялетавы бугенвіль, які красаваўся на балконах, скверах, бульварах. Падобны колерны кантраст выяўлялі дзікія лугі з чырвоным макам і белажоўтым рамонам. Паміж імі тырчалі фіялетавыя плады апунцыі і вострыя зялёна-залатыя шомпалы агавы. Вясновую палітру колераў папаўнялі лімонныя гаі, аблепленыя сонечна-жоўтымі пладамі. Сіцылію невыпадкова спалучаюць з вобразам кіслых лімонаў і калючых апунцый. І не ідзе тут пра намёк пра цёмны бок жыцця, назначанага *Cosa Nostra*. На востраве вырошчваюць за восемсот адсоткаў лімонных пладоў...

Лімонныя і мандарынавыя гаі займалі амаль увесь ландшафт абапал аўтастрады Катанія — Месіна. Шмат дрэў ужо пераспела і скінула на зямлю плады, якія валяліся ў сакавітай, някошанай траве. Настрой заняпаду папаўнялі занядбаныя будынкі з раскінутымі каменнымі агароджамі. Усё гэта напамінала занядбаны рай, які сапсаваўся з-за пакінутасці. Адначасова ў Еўропе пісалі пра вынаходлівасць сіцылійскай мафіі, якая выманіла 3 мільярды еўра з Бруселя праз «земляробаў-слупоў». Дзякуючы ім, ільвіная частка еўрадапдат трапляла ў кішэню мафіі. Сам прыбытак ад сельскагаспадарчай дзейнасці тут не ўспрымаўся як прыярытэт. У злачынстве вінавацілі мафію, якая апанавала тэрыторыю між Катаніяй і Месінай...

Як не страшна, мы знаходзіліся ў яе логаве!

А карцінкі з пераспелымі лімоннымі гаямі быццам дапаўнялі вобраз гарачай афёры. Аднак на месцы, традыцыйна, ніхто нічога не чуў, не бачыў і не ведаў.

Ну, зусім, як у нас, на Падляшшы.

* * *

На Сіцыліі хацелася аддыхацца ў расквечаным, экзатычным краявідзе. Хоць у дзень, калі мы падарожнічалі ў бок Месіны, далягляд затыкала шэра-брудная сцяна дыму, які выпускалі абочыны магутнай Этны. Назоў вулкана выводзіцца ад фінікійскага слова *attano*, які абазначае печ. Іншы мясцовы назоў гэта *Mongibello*, у якім закадаваныя гукі закляцця супраць знішчальнай моцы вулкана. Як не дзіўна, ад стагоддзяў народ туліцца да гэтай пагрозлівай гары, якая на працягу апошніх 3,5 тысячы гадоў вывяргалася ўжо больш за 400 разоў. Этна ўспыхнула апошнім разам у 2003 годзе. У гэты раз не было ахвяр у людзях, аднак успых растапіў і засыпаў інфраструктуру для зімовых спортаў, што працавала на заснежанай вяршыні.





— Мы звыкліся з Этнай, — кажа Шамрат — вулічны прадаўшчык сувеніраў. Шамрат, хоць сам эмігрант з Бангладэша, лічыць сябе сапраўдным сіцылійцам. Тут яго праца, тут добрае жыццё. Яго прызнанне гучыць шчыра. На востраве дацаніілі эмігрантаў з Азіі. Можна сказаць, што на бенгальцах і індусах трымаецца ўвесь вулічны гандаль Сіцыліі. З'яве спрыяе іх веданне англійскай мовы і прыродная ветлівасць. Шамрат ніколі не з'ездзіў на вяршок вулкана, як робяць гэта замежныя турысты:

— Там надта многа дыму, — жартуе, — а я ўжо дастаткова смуглявы!

Ёсць дзіўнае прыцяжэнне між чалавекам і дзейсным, пагрозлівым вулканам. Дымеючыя абочыны Этны густа і прыгожа абжытыя. У адлегласці пяці кіламетраў ад галоўнага кратара пражывае 78 чалавек, пяць кіламетраў далей — 3291 асоба, у адлегласці трыццаці кіламетраў лік узрастае ўжо да 1 016 540 насельніцтва. Далей, калі глядзець на абочыны і падножжа гары, колькасць людзей, што жывуць на вулкане, складае больш за тры мільёны. Гэта больш за палову насельніцтва выспы. Верагодна, блізкае суседства са стыхіяй паўплывала на маўклівы і стрыманы характар сіцылійцаў. Здавалася нават, што самым гаваркім і спантанным народам тут не мясцовыя, а згаданыя індусы і бенгальцы.

* * *

Памыляецца той, хто лічыць, што прывязе ў якасці памяткі магніт на лядоўню з мафіяй.

Гэтую сарамлівую тэму замоўчваюць нават бенгальскія вулічныя гандляры. Усе пытанні збываюць усмешкай. І адразу прапануюць біжутэрыю з чорнай вулканічнай скалы, якая адразу асацыюецца з хаўтурамі і жалобай!

У Катаніі мы выпадкова трапілі на гарадскі рынак, які ў большасці абслугоўвалі эмігранты з Індыі. Вялікая частка гандлёвай пляцоўкі пад адкрытым небам належала секанд-хенду. Уся вопратка, выкладзеная проста на зямлі, прадавалася за адну цану — 0,5 еўра. У адной цане прадаваўся і ношаны абутак. Вакол гурбы прасякнутай дзіўным пахам апранах церлася мора народу.

— Вось, такі секанд-хенд, то я разумею! — паўтаралі мы ў захапленні.

Яшчэ мацнейшыя пахавыя пачуцці наклікаў рыбны торг, які схаваўся між секанд-хендам і базарам з садавінай і гароднінай. Тут гандлявалі мясцовыя рыбакі-прайдзісветы. Яны хвалілі свой тавар, прыпяваючы вясёлыя куплеты і арыі. На прылаўках былі выкладзены дзясяткі відаў рыб, малюскаў, марскіх вожыкаў ды ўсякага фруццi-дзі-марэ.

— Ці ёсць у вашых рыбах ртуць?
— спыталі мы. Пытанне ўнушылі апошнія доследы жывёл марскіх глыбінь, якія затыкаюцца пластмасавым смеццем і назапашваюць атрутную.

— Ртуць? — адказаў пытаннем на пытанне рыбак і як усе накол, паціснуў плячыма. Магчыма, гаварыў чыстую праўду, бо ад рыбных прылаўкаў цягнула духмяным, чыстым, лёгка асоленым морам...

Праз момант мне здалося што знаходжуся ў сярэдзіне карціны „La Vucciria by Sicilian Painter" сіцылійскага мастака Рэната Гутуза.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960